Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 3 (4803) 23 студзеня 2015 г.



# Пашпарт для Паўлінкі

Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Янкі Купалы прэзентаваў каталог «Афішы да спектакля «Паўлінка» па аднайменнай п'есе Янкі Купалы».

— Праца над каталогам вялася з 2011 года, — распавяла ўкладальніца Лізавета Еліневіч. — Распачаў яе Дзяніс Рашчынскі. Ён правёў першасны адбор афіш, іх атрыбуцыю і сістэматызацыю. Я ж займалася інфармацыйным насычэннем каталога, шукала артыкулы і ўспаміны, якія дапасоўваліся б да афіш. У фондах музея захоўваюцца публікацыі, ад пачатку XX стагоддзя да сучасных, звязаныя з Янкам Купалам. Яны надзвычай цікавыя. У 1970-я гады, напрыклад, амаль не пісалі пра «Паўлінку». А ў 2013-м, зразумела, было вельмі шмат матэрыялаў, як і ў 1913-м — годзе прэм'еры спектакля. Некаторыя артыкулы сёння падаюцца смешнымі. Іншыя прасякнутыя такой душэўнасцю, пяшчотай, што іх немагчыма было не прывесці ў каталогу. Мне здаецца, якраз гэтыя артыкулы і стварылі дух каталога, зрабіўшы яго не проста пералікам афіш за 100 гадоў.

Сапраўды, каталог — выданне ўнікальнае: тут адлюстравана сувязь паміж жыццём і творчасцю Янкі Купалы і развіццём Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. І СМІ, і купалаўцы ўжо не раз адзначалі, што спектакль «Паўлінка» ў пэўным сэнсе рэкордны: нідзе ў свеце пастаноўка не жыве на адной сцэне больш за 70 гадоў. Каталог закранае дзейнасць не толькі Купалаўскага тэатра, але і Беларускага Акадэмічнага музычнага тэатра, дзе пэўны час ішла аперэта «Паўлінка», шэрагу іншых тэатральных гурткоў і пад. Тут змешчана 39 афіш з усяго свету на розных мовах. Яны суправаджаюцца вытрымкамі з рэцэнзій, урыўкамі з успамінаў, здымкамі акцёраў у ролях са спектакля, выявамі тэатральных праграм. І кожная — не толькі крыніца інфармацыі, але і дакумент часу, а ў асобных выпадках — твор мастацтва. Так, на вокладцы каталога змешчаная афіша 1987 года мастака Уладзіміра Крукоўскага, якая захоўваецца ў фондах музея.

На прэзентацыі прысутнічалі прадстаўнікі Купалаўскага тэатра — мастацкі кіраўнік Мікалай Пінігін, загадчык літаратурна-драматычнай часткі Вольга Бабкова, актрыса Ала Долгая, якая выконвала ролю Паўлінкі цягам 18 гадоў, і іншыя акцёры; Беларускі Акадэмічны музычны тэатр прадстаўляла начальнік службы маркетынгу Вольга Гудожнікава. Прафесійны погляд на каталог выказала Вераніка Ярмалінская, аўтар рэцэнзіі на выданне, загадчык аддзела тэатральнага мастацтва Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, кандыдат мастацтвазнаўства.

Першыя асобнікі каталога «Афішы да спектакля «Паўлінка» падараваны стваральнікам выдання, дзеячам тэатра ды іншых сфер культуры.

Наста ГРЫШЧУК



Фота Кастуся Дробава

Адной з першых каталог атрымала «Паўлінка» Ала Долгая (справа).

# Агонь натхнення


Фота Кастуся Дробава

Галіна Дзягілева ў монаспектаклі «Пачакай, сонца!..».

Зніч — святы нязгасны агонь старажытных славянскіх капішчаў. У вераваннях продкаў — першавыток жыцця, святла і цяпла, яго шанавалі як сімвал пераемнасці пакаленняў. А яшчэ гэта назва адзінага ў Беларусі паэтычнага тэатра аднаго акцёра. 20 студзеня ў вялікай канцэртнай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбылася юбілейная імпрэза «Сам-насам», прымеркаваная да 25-годдзя тэатральна-канцэртнай дзейнасці тэатра «Зніч».

Святочны вечар складаўся з двух аддзяленняў. У першым быў паказаны монаспектакль «Пачакай, сонца!..» паводле гістарычнага рамана ў вершах «Маруся Чурай» украінскай пісьменніцы Ліны Кастэнка, твораў еўрапейскай паэзіі, нізкі санетаў «Бабіна лета» і вершаў Ніны Мацяш. Аўтарам інсцэніроўкі і выканаўцай кранальнай гісторыі нешчаслівага кахання Марусі Чурай і Грыца стала Галіна Дзягілева. Кампазітар — Алег Залётнеў. Другое аддзяленне юбілейнай імпрэзы — «Агонь любві нябеснай і зямной» — рэтраспектыва монаспектакляў тэатра «Зніч», урачыстая частка з удзелам прадстаўнікоў культуры і мастацтва, вядомых артыстаў, сяброў тэатра.

Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра «Зніч» цалкам адпавядае сваёй назве, бо сарыентаваны на служэнне хрысціянскім духоўным каштоўнасцям, захаванне маральна-этычных нормаў. Асноўная рэпертуарная лінія — папулярызацыя твораў айчынных аўтараў і класікаў сусветнай літаратуры. Усе спектаклі — толькі па-беларуску. Культура сцэнічнай мовы, роднае слова як безумоўная каштоўнасць — галоўнае крэда тэатра і яго заснавальніцы ды мастацкага кіраўніка Галіны Дзягілевай.

Жанр монаспектакля, у якім працуе «Зніч», вельмі складаны і рэдкі, што вымагае ад артыста выключнага ведання матэрыялу і віртуознага таленту пераўвасаблення. Адсутнасць на сцэне партнёраў абумоўлівае цесны кантакт з гледачом разам з няспынным яго ўвагай да канфлікту драматычнага дзеяння. Таму з тэатрам супрацоўнічаюць толькі вядучыя майстры сцэны, лепшыя рэжысёры, сцэнографы і кампазітары.

У рэпертуары тэатра «Зніч» разнапланавыя монаспектаклі: паэтычныя драматычныя, дзіцячыя, лялечныя і нават монаопера. Сюжэтныя лініі і героі раскрываюць багацце нашай гісторыі, сучаснасці і будучыні: «Любіць!..» А. Вярцінскага; «Мне сняцца сны аб Беларусі» Я. Купалы; «Выгнанне ў рай» Н. Рапы; «У краіне светлай...» М. Багдановіча; «Прыпадаю да нябёс...» Я. Янішчыц; першай нацыянальнай монаоперы «Адзінокі птах» А. Залётнева ды інш.

Таццяна ШЧЭРБА

## Пункцірам

✔ У эпоху глабалізацыі нацыянальныя культуры не страчваюць актуальнасці. Такое меркаванне Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выказаў на 42-м з'ездзе Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі. «У кожнага народа ёсць уласная сістэма каардынат, вектар развіцця, зададзены яго гістарычным вопытам і нацыянальнай культурай. Праз іх прызму мы ўспрымаем свет», — падкрэсліў Кіраўнік дзяржавы.

✔Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі на 42-м з'ездзе грамадскага аб'яднання, які праходзіў у Мінску, прадставіў рэспубліканскі патрыятычны праект «Кветкі Вялікай Перамогі!». Кіраўнік дзяржавы падтрымаў ініцыятыву моладзі. Аляксандру Лукашэнку была ўручана кветка яблыні з чырвона-зялёнай стужкай — сімвал праекта, які будзе рэалізаваны ў год 70-годдзя Перамогі.

✔Штомесячныя гранты Прэзідэнта Беларусі на 2015 год прадастаўлены 67 работнікам арганізацый навукі, адукацыі, аховы здароўя і культуры. У сферы культуры адзначаны 10 спецыялістаў, якія зрабілі значны ўнёсак у развіццё галіны. Гранты будуць накіраваны на рэалізацыю праектаў, якія садзейнічаюць захаванню нацыянальных традыцый і прагрэсіўнаму развіццю айчыннай культуры.

✔Учора ў Белдзяржуніверсітэце ўрачыста ўшанавалі лаўрэатаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы адораных навучэнцаў і студэнтаў. Узнагароды атрымалі 35 прадстаўнікоў БДУ. Не засталіся без увагі і выкладчыкі. Пасведчанні фонду атрымаюць 12 супрацоўнікаў ВНУ.

✔ Першыя беларускія Калядкі ў Парыжы прайшлі ў нацыянальных традыцыях. Мерапрыемства арганізавана Пасольствам Беларусі ў Францыі і прадстаўнікамі дыяспары. На вечарыне гучалі народныя і сучасныя песні ў выкананні беларускіх артыстаў, якія жывуць у Парыжы.

✔ Урачыстая цырымонія адкрыцця франка-беларускага праекта «TEATRO-BOX» адбылася ў Цэнтры сучасных мастацтваў. Кожны тыдзень па аўторках і чацвяргах са студзеня па чэрвень маладыя французскія акцёры будуць ладзіць адкрытыя бясплатныя майстар-класы па акцёрскім майстэрстве для ўсіх жадаючых. Акрамя таго, у межах праекта аматарай тэатра чакаюць спектаклі, перформансы і шмат што іншае.

✔ 31 студзеня ўпершыню ў Мінску адзін з лепшых піяністаў свету, народны артыст Расіі Юрый Розум прадставіць у Белдзяржфілармоніі сваю фартэпіянную праграму. У выкананні маэстра прагучаць творы Аляксандра Скрабіна, Сяргея Рахманінава, Пятра Чайкоўскага.

✔ Аўтарскія ўпрыгажэнні легенды беларускай сцэны Стэфаніі Станюты можна пабачыць на выстаўцы ў Бабруйскім раённым гісторыка-краязнаўчым музеі. У экспазіцыі — незвычайныя рэчы, створаныя прымай Купалаўскага тэатра з прыродных матэрыялаў, а таксама лясная пластыка, створаная рукамі вядомай актрысы.

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Ад прапаноў да вынікаў

**Чарговы сход сяброў Мінскага гарадскога аддзялення СПБ адбыўся ў сталічным Доме літаратара.**

Акрамя пісьменнікаў, на ўрачыстым мерапрыемстве прысутнічалі галоўны спецыяліст Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мінскага гарвыканкама Марыя Ясюк і дырэктар Цэнтралізаванай сістэмы дзіцячых бібліятэк Таццяна Швед.

Старшыня МГА СПБ Міхась Пазнякоў адзначыў: за мінулы год сышлі ў іншы свет сталічныя пісьменнікі Руслан Ірынархаў, Павел Саковіч, Уладзімір Лазар, Георгій Юрчанка, Уладзімір Ермалаеў. Іх памяць ушанавалі хвілінай маўчання.

Старшыня СПБ Мікалай Чаргінец уручыў членскі білет публіцысту, карэспандэнту часопіса «Милиция Беларуси» Алене Баяровіч. Граматамі СПБ за шматгадовую плённую працу на ніве беларускай літаратуры і ў сувязі з 80-годдзем творчай арганізацыі ўзнагароджаны пісьменнікі Ала Чорная (Кірылава) і Аляксандр Вашчанка, медалямі «За вялікі ўклад у літаратуру» — Андрэй Скарынкін, Яўген Хвалей, Алесь Пісарык, Кастусь Жук. Людміла Клачко атрымала дыплом лаўрэата рэспубліканскага літаратурнага конкурсу «Лепшы твор года» за кнігу лірыкі «На колькі слоў…»

Распавядаючы пра вынікі года, М. Пазнякоў дэталёва спыніўся на творчай і культурна-масавай дзейнасці, стасунках з юнымі літаратарамі, акцэнтаваў увагу на праблемах і недахопах, а таксама прапановах на будучыню.

Сёння ў МГА СПБ 290 літаратараў, за мінулы год аддзяленне папоўнілі 10 новых членаў. Выдадзена 126 кніг сяброў аддзялення. Медалём Францыска Скарыны адзначаны Віктар Праўдзін, Васіль Шырко, Алесь Бадак; званнем заслужанага дзеяча культуры — Мікалай Чаргінец; званнем заслужанага дзеяча мастацтваў — Анатоль Дзялендзік; падзякай Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь — Казімір Камейша; ганаровым грамадзянінам Полацка стаў Навум Гальпяровіч, Буда-Кашалёўскага раёна — Мікола Чарняўскі і Анатоль Зэкаў, Крупскага — Іван Цітавец. Шэраг пісьменнікаў уганараваны міжнароднымі літаратурнымі прэміямі.

Шмат увагі аддзяленне надае працы з юнымі і маладымі літаратарамі: праводзяцца кансультацыі, семінары, конкурсы. Многія сталічныя літаратурна-творчыя студыі ўзначальваюць члены МГА СПБ.

Міхась Пазнякоў пазнаёміў прысутных з планам мерапрыемстваў аддзялення на 2015 год. Прапановы па ўдасканаленні дзейнасці МГА СПБ унеслі дырэктар выдавецтва «Чатыры чвэрці» Ліліяна Анцух, Алесь Пісарык, Аліна Легастаева, Валерый Чудаў, Марыя Ясюк. Справаздачу аб працы Беларускага рэспубліканскага літаратурнага фонду прадставіў генеральны дырэктар Мікалай Коваль.

Старшыня СПБ Мікалай Чаргінец адзначыў плённае супрацоўніцтва творцаў з гарадскімі дзіцячымі бібліятэкамі. Мікалай Іванавіч упэўнены: члены Саюза пісьменнікаў Беларусі павінны ўмацоўваць арганізацыю знутры, умець працаваць у камандзе, разам ствараць новую гісторыю краіны.

Напрыканцы сходу членамі МГА СПБ была прынята пастанова: больш увагі надаваць прапагандзе кніг пісьменнікаў аддзялення — праз выстаўкі, прэзентацыі, сайт, электронны часопіс, а самім пісьменнікам актыўней прапаноўваць свае творы электроннаму часопісу; стварыць групу па працы з прэсай і падрыхтоўцы матэрыялаў на сайт; узмацніць камісію па працы з ветэранамі; штогод да 15 снежня прадстаўляць кіраўніцтву аддзялення індывідуальныя творчыя справаздачы, а таксама па адным экзэмпляры кожнай новай кнігі; ліквідаваць запазычанасці па членскіх узносах да канца I квартала бягучага года; Савету аддзялення абмеркаваць вынікі сходу і прыняць пастанову да адпаведнага рэагавання на крытычныя заўвагі і прапановы.

**Яна ЯВІЧ**

## Да ведама

# У гонар князя

Галоўны рэдактар Выдавецтва Беларускага Экзархата, аўтар шэрагу кніг гістарычнага і духоўна-маральнага зместу Аляксандр Вялько атрымаў міжнародную прэмію імя князя Канстанціна Астрожскага. Узнагарода прысуджаецца за выбітныя дасягненні і ўнёсак у развіццё думкі, культуры і духоўнасці праваслаўных вернікаў, а таксама за яднанне хрысціян.

Лаўрэатаў вызначае польскі часопіс «Праваслаўны агляд», які святкуе сёлета свой 30-гадовы юбілей. Акрамя Аляксандра Вялько, прэмія прысуджана таксама Свята-Мікалаеўскаму Гарадокскаму манастыру ва Украіне і яго настаяцельніцы ігумені Міхаіле, сербскаму іканапісцу Гарану Янчыевічу, айцу Хейкі Хутунену і Алене Павінскі з Фінляндскай Праваслаўнай Царквы, гісторыку Ірэне Матус з Польшчы і інтэрнэт-парталу *cerkiew.pl.*

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Паэзія гучала

Творчы вечар паэта Вадзіма Спрынчана прайшоў у сталічным Доме Масквы. Віншавалі творцу старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў, пісьменнікі Наталля Касцючэнка, Наталля Казапалянская і Хізры Асадулаеў.

Паэт разважаў пра жыццё і смерць, пра сэнс усяго існага. У вершах адчувалася ўзвышаная, пранізлівая любоў да Радзімы і чалавека.

Падчас імпрэзы прагучалі песні і рамансы ў выкананні барда Алены Маслоўскай.

**Вольга ГЛУШЧАНОК**



*Фота Наталлі Купрэвіч*

*Марына Эльяшэвіч уручае хлеб-соль міністру культуры Барысу Святлову.*

# Свабодны рух

**Паэтычная спадчына Якуба Коласа натхняе на новыя творы не толькі літаратараў, але і мастакоў. Як сведчанне — выстаўка прац гродзенскай мастачкі Марыны Эльяшэвіч «І спее колас залаты», што адкрылася ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа.**

Марына Эльяшэвіч, захопленая гісторыяй сям'і Міцкевічаў і вобразамі жонкі паэта Марыі Дзмітрыеўны і трох яго сыноў — Данііла, Юрыя і Міхася, напісала шэраг партрэтаў у традыцыйнай кітайскай тэхніцы го хуа: на рысавай паперы, пры дапамозе кітайскай тушы і мінеральных фарбаў. У творчым дуэце з беларускай мастачкай выступіў майстар каліграфіі, сакратар Пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Сунь Хучжы. Яго пэндзлю належаць метафарычныя подпісы на партрэтах, выкананыя ў стылі «цхаа шу» (свабодны рух рукі).

Міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў яшчэ раз павіншаваў музей з 55-годдзем.

— Унёсак, які вы робіце ў культуру Беларусі, вельмі і вельмі значны, — адзначыў міністр. — А выстаўка прац Марыны Эльяшэвіч — яскравы прыклад прачытання асобы Якуба Коласа ў мастацтве іншай культуры. Сёння беларуска-кітайская дружба ўмацоўваецца яшчэ больш, умацоўваюцца культурныя сувязі паміж нашай краінай і Кітаем.

На адкрыцці прысутнічалі прадстаўнікі Пасольства КНР у Беларусі — першы сакратар Пасольства Ся Гуанюань і саветнік Пасольства Сунь Хучжы.

— Калі Марына прапанавала сумесную працу, я пагадзіўся адразу ж, — распавёў спадар Сунь Хучжы. — Гэта вельмі карысная дзейнасць, сімвал культурнага супрацоўніцтва. Сёння бурна развіваюцца нашыя палітычныя адносіны, і давер — на вельмі высокім узроўні. Але толькі палітычных адносін не хапае: культура і эканоміка — як крылы, якія рухаюць.

Аспірант Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Чэн Вэнхуа прачытаў верш Якуба Коласа. Віншавальныя слова на адрас музея і мастачкі бралі спадарыня Анаміка Бхарці, жонка пасла Рэспублікі Індыя ў Рэспубліцы Беларусь, прэзідэнт Міжнароднага жаночага клуба жонак паслоў і дыпламатаў і міжнародных прадстаўнікоў, і Кацярына Любецкая, жонка консула Харватыі. Выступілі кандыдат мастацтвазнаўства, усходазнавец Яўген Шунейка, старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька.

Паэт, галоўны дырэктар радыё «Беларусь» Навум Гальпяровіч распавёў пра свой унёсак ва ўмацаванне беларуска-кітайскіх сувязяў:

— Радыё «Беларусь» гаворыць на васьмі мовах, у тым ліку — на кітайскай, а Міжнароднае радыё Кітая гаворыць з Пекіна і на беларускай мове. У Пекіне ёсць парк скульптур з працамі нашых творцаў. У хуткім часе адбудзецца XXII Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш, дзе КНР будзе ганаровым госцем. Я пераклаў на беларускую мову вершы Ду Фу і Ай Ціна, і многія нашыя пісьменнікі рыхтуюцца да выдання кніг кітайскіх паэтаў па-беларуску.

Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч адзначыў, што стыль прац Марыны Эльяшэвіч яму спадабаўся, даў некалькі слушных парад мастачцы.

Экспанаваныя творы перададзеныя ў дар музею.

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

# Рэйтан. Вяртанне з нябыту

Выстаўка, прысвечаная 275-й гадавіне з дня нараджэння Тадэвуша Рэйтана, адкрылася ў галерэі «Лабірынт» Нацыянальнай бібліятэкі. Гэтае імя звязана са змрочнымі падзеямі ў гісторыі Беларусі — Першым падзелам Рэчы Паспалітай. Рэйтан, які з дзяцінства быў сапраўдным патрыётам сваёй краіны, да апошняга змагаўся за яе незалежнасць, часта рызыкуючы жыццём. Але на пачатку XX стагоддзя яго імя пачало забывацца. Тым больш істотна, што ў XXI-м гісторыя яго подзвігу зноў актуальна, пра што сведчаць і заснаваная ў 2013 годзе арт-суполка Тадэвуша Рэйтана, і гэтая выстаўка.

Экспазіцыя складаецца з дзвюх частак — мастацкай і літаратурнай. У першай можна ўбачыць як творы сучасных беларускіх мастакоў — графічны шэраг «Род Рэйтанаў. Асобы. Падзеі» А. Родзіна і З. Юркевіча, Р. Сітніцы, М. Купавы, Р. Батальёнка і інш., так і рэпрадукцыі выяў Тадэвуша Рэйтана нашых папярэднікаў — мастакоў XVIII — XX стст. Ф. Смуглевіч, Л. Горварта. У другой — літаратурныя творы, прысвечаныя Тадэвушу Рэйтану, а таксама памятныя медалі, створаныя яго пляменнікамі — Станіславам Рэйтанам і Ганнай Герычовай з Рэйтанаў.

На адкрыцці сабралася шмат знакамітых і паважаных гасцей, сярод якіх — Адам Мальдзіс, Рыгор Сітніца, арганізатары выстаўкі — заснавальнікі арт-суполкі імя Тадэвуша Рэйтана Алесь Родзін і Зміцер Юркевіч. Апошні заклікаў прыцягнуць увагу да сядзібнага комплексу ў вёсцы Грушаўка (Ляхавіцкі раён), які 250 гадоў з'яўляўся цэнтральнай сядзібай роду Рэйтанаў, і стварыць там не толькі мемарыяльны музей, а і сапраўдны культурны цэнтр.

**Ніна САРМАНТ**

# Краязнаўчы партрэт Пухавіччыны

У аграгарадку Блонь, дзе месціцца сядзіба Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея, прайшла прэзентацыя кнігі Алеся Карлюкевіча «І марам волю дам».

Адметнасць выдання ў тым, што ўпершыню ў гісторыі беларускага краязнаўства ў аб'ёмным кніжным фармаце выкладзена літаратурная гісторыя аднаго раёна. «І марам волю дам: літаратурная карта Пухавіччыны», выдадзеная ў «Беларускай Энцыклапедыі імя Петруся Броўкі», выклікала шырокія водгукі даследчыкаў літаратуразнаўцаў, гісторыкаў айчыннай літаратуры.

У Блоні, дзе ў XIX — пачатку XX стагоддзя і праходзіла частка літаратурнага жыцця Пухавіччыны, пагаварыць пра кнігу пісьменніка-земляка сабраліся настаўнікі, бібліятэкары, аматары прыгожага пісьменства з Мар'інай Горкі і ўсяго Пухавіцкага раёна. Пра тое, як збіраліся матэрыялы да літаратурна-краязнаўчай біяграфіі Пухавіччыны, распавёў сам аўтар. Шматгадовай пошукавай працы Алеся Карлюкевіча ў многім спрыялі стасункі з мясцовымі краязнаўцамі, школьнымі музеямі, бібліятэкарамі, цікаўнымі да гісторыі пухавіччанамі.

Пра кнігу «І марам волю дам» гаварылі рэдактар аддзела прозы часопіса «Нёман» пісьменнік Алег Ждан, краязнаўца Іван Ярашэвіч, дзіцячы пісьменнік, літаратурны крытык Браніслаў Зубкоўскі, дырэктар Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея Аляксандр Прановіч. Прэзентацыя, дарэчы, праходзіла ў зале музея, дзе сабраны экспанаты, дакументы, прысвечаныя літаратурнай гісторыі края. З Пухавіччынай звязаны лёсы народных песняроў Якуба Коласа, Янкі Купалы, Міхася Чарота, Уладзіміра Хадыкі, Аркадзя Моркаўкі, Таісы Бондар, іншых паэтаў і празаікаў. Усё гэта пераконвае ў тым, што ў кнігі па літаратурным краязнаўстве Пухавіцкага раёна павінен быць працяг.

**Наталля АСМОЛА**

# Валожыну прысвечана

75-годдзю ўтварэння Валожынскага раёна прысвяцілі першае ў новым годзе мерапрыемства ўдзельнікі народнага літаратурна-мастацкага аб'яднання «Рунь» Валожынскага раённага цэнтра культуры. На імпрэзу запрасілі руплівцаў, якія шмат гадоў шчыравалі на карысць Валожыншчыны.

На пачатку сустрэчы начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Валожынскага райвыканкама Вікенцій Адамовіч адрасаваў шчырыя словы падзякі валожынскім творцам, сярод якіх — чатыры сябры Саюза пісьменнікаў Беларусі, чыё літаратурнае слова асвятляе душы, вучыць юных валожынцаў любіць сваю Радзіму, ведаць і шанаваць спадчыну.

Было што ўспомніць і распавесці Сяргею Маляўскаму, які годна і сумленна служыў Валожыншчыне, працуючы на самых высокіх у раёне пасадах. Як прыгожа, шчыра апявае Сяргей Сяргеевіч гісторыю і сучаснасць роднага краю ў сваіх паэмах, урыўкі з якіх прагучалі ў аўтарскім выкананні! Дарылі сябрам па пяры і гасцям вершаваныя творы іншыя ўдзельнікі аб'яднання. А Станіслаў Пупко выканаў уласныя песні, прысвечаныя Валожыншчыне.

**Валянціна ГІРУЦЬ-РУСАКЕВІЧ, кіраўнік аб'яднання «Рунь»**

# Ганаровы зямляк

Анатоль Зэкаў даўно жыве і працуе ў Мінску. Аднак не парывае сувязей з жыхарамі Буда-Кашалёўскага раёна. У роднай Патапаўцы знойдзе час для сустрэчы з чытачамі-землякамі ў мясцовай школе, завітае і ў цэнтральную раённую бібліятэку. У падарунак пакіне кнігі — як уласныя, так і сяброў-пісьменнікаў.

На яго словы напісаны гімн аграрна-тэхнічнага каледжа, вершаваныя радкі паэта змешчаны на помніку воінам-інтэрнацыяналістам у Буда-Кашалёве. Землякі — галоўныя героі паэтычных і празаічных твораў Анатоля Зэкава. Дарэчы, кніга яго вершаў «Пад кронай белых аблачын» — своасаблівы настольны падручнік для школьнікаў па краязнаўстве. Тут і гістарычныя звесткі з летапісу роднага краю, і легенды асобных вёсак, і паэтычныя аповеды пра людзей.

Ацэньваючы заслугі пісьменніка перад землякамі, сесія раённага Савета дэпутатаў прыняла рашэнне прысвоіць Анатолю Зэкаву пачэснае званне «Ганаровы грамадзянін Буда-Кашалёўскага раёна». Ушанаванне з гэтай нагоды адбылося ў раённым Доме культуры, дзе віноўніка ўрачыстасці, а да ўсяго і юбіляра (нядаўна яму споўнілася 60 гадоў) павіншавалі старшыня райсавета дэпутатаў Алена Алексіна, прадстаўнікі прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў раёна.

**Аліна РАЧЫЦКАЯ**

# Кіно пра жыццё

**Прэзентацыя фільма Аляксея Туровіча «Трэба жыць» паводле аповесці «Грэшніца» айчыннага празаіка, драматурга Анатоля Дзялендзіка адбылася ў сталічным кінатэатры «Перамога».**

Гісторыю, пакладзеную ў аснову аповесці і фільма, Анатолю Андрэевічу распавёў калега-ўрач (А. Дзялендзік пэўны час працаваў псіхіятрам).

Галоўнаму герою карціны, супрацоўніку міліцыі Антэку, якога ўвасобіў сам Аляксей Туровіч, даручана даставіць у гродзенскую турму злачынцу з венерычным захворваннем. Па дарозе маладая жанчына некалькі разоў уцякае ад свайго канваіра. А бліжэй да фіналу глядач даведваецца, што ў яе быў жаніх-лётчык, які разбіўся падчас палёту…

Паводзіны Эвеліны — наступствы глыбокай псіхічнай траўмы пасля страты, праява адчаю. Да трагедыі яна марыла паступіць у медінстытут, стаць урачом. І па-сапраўднаму шкада, што так склаўся лёс гераіні, бо пасля прыезду на шляху да турмы ў родныя мясціны да яе звяртаюцца па дапамогу аднавяскоўцы, і чулае сэрца адгукаецца…

У карціне зняліся не толькі прафесіяналы (Віялета Сарвірава, Уладзімір Лебедзеў, Яўген Крыжаноўскі, Аляксандр Ціхановіч), але і вясковыя жыхары. Гэта ўжо сёмы фільм паводле сцэнарыя Анатоля Дзялендзіка, аўтара 15 кніг, па п'есах якога пастаўлена 30 спектакляў. Музыку да стужкі стварыў айчынны кампазітар Віктар Капыцько. Паводле рэжысёрскай задумы, пасляваенная драма «Трэба жыць» мае адкрыты фінал. А працяг? Працяг будзе.

**Яна ЯВІЧ**

# Дабро перамагае!

**Стары Новы год адсвяткавалі ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Гасцей установы — маленькіх і дарослых — чакала шмат сюрпрызаў.**

Арганізатары вечара, удзельнікі арт-студыі «Казка», падрыхтавалі насычаную праграму з песнямі, танцамі, гульнямі… Рэй вялі паэты, спевакі, даследчыкі фальклору.

Вядучая вечарыны — пісьменніца Алена Масла. У цэнтры дзеі — беларускія народныя казкі. Прысутныя сустрэліся з героямі-асілкамі, пачулі гісторыі пра збіральнікаў і шукальнікаў казак. Ладзілася таксама цікавая віктарына, удзельнікі якой атрымалі прызы.

Імпрэза была дабрачыннай: супрацоўнікі музея зладзілі калядкі ў падтрымку Міжнароднай грамадскай арганізацыі «Дзеці. Аўтызм. Бацькі». Падчас кірмашу жадаючыя змаглі набыць салодкі пачастунак, дзіцячыя кнігі, адмысловыя рэчы. Усе сабраныя сродкі пойдуць на патрэбы дзецям, хворым на аўтызм.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Па-рагачоўску

Штогадовая цырымонія ўручэння прэмій за дасягненні ў сацыяльна-культурнай сферы «Залаты Рог» прайшла на Рагачоўшчыне.

У ліку дзевяці ўзнагароджаных — член Саюза пісьменнікаў Беларусі, лаўрэат шматлікіх літаратурных прэмій, ураджэнец Рагачоўшчыны Васіль Ткачоў. Творца стаў уладальнікам галоўнага прыза «За высокія чалавечыя і прафесійныя якасці, любоў да жыцця і людзей».

**Міхась КАВАЛЁЎ**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**24 студзеня** — *на юбілейны творчы вечар пісьменніка, вучонага і грамадскага дзеяча Валянціна Талкачова. Імпрэза адбудзецца ў Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце (пр-т Партызанскі, 26, другі паверх). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**26 студзеня** — *у літаратурна-дыскусійны клуб «Творчая пляцоўка» пры дзіцячай бібліятэцы № 1 (вул. Гарадскі вал, 3). Пачатак а 18-й гадзіне.*

**27 студзеня** — *на юбілейнае творчае свята пісьменніка Анатоля Зэкава, якое пройдзе ў дзіцячай бібліятэцы № 6 імя В. Віткі (вул. К. Лібкнехта, 98). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**27 студзеня** — *у літаратурны клуб «Пад белымі крыламі» пры гімназіі-каледжы імя І. В. Ахрэмчыка (вул. Макаёнка, 4) на творчую сустрэчу з маладой пісьменніцай Янай Явіч. Пачатак у 14:30.*

**28 студзеня** — *на прэзентацыю кнігі вершаў Вольгі Шпакевіч «Душа — скарбонка». Мерапрыемства пройдзе ў публічнай бібліятэцы № 11 (праезд Ташкенцкі, 3). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**29 студзеня** — *у літаратурны клуб «Шчырасць» пры публічнай бібліятэцы № 22 (вул. Я. Чачота, 23) на свята дзіцячай кнігі «Свята дабрыні». Ганаровы госць — пісьменнік, старшыня МГА СПБ Міхась Пазнякоў. Пачатак а 11-й гадзіне.*

**29 студзеня** — *на прэзентацыю кнігі калектыву аўтараў «Байцы ўспамінаюць дарогі вайны», якая адбудзецца ў публічнай бібліятэцы № 1 імя Л. Талстога (вул. Маскоўская, 18). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**29 студзеня** — *на кніжную выстаўку, прысвечаную 155-годдзю з дня нараджэння А. П. Чэхава. Мінская абласная бібліятэка імя А. С. Пушкіна (г. Мінск, вул. Гікала, 4).*

**30 студзеня** — *на паэтычную сустрэчу з Рагнедам Малахоўскім «Жыві!». Нарацкая СШ № 2 (Мядзельскі раён, к. п. Нарач, вул. Ленінская, 23). Пачатак а 12-й гадзіне.*

Ірына ДАНІК



## Гродна

Давай паходзім па Гародні…
Прыгожы горад кожны дзень.
Ты для любога станеш родным,
Для многіх нацый і людзей.
Твае сады, праспекты, паркі
І плошчы ў квецені сцягоў…
І Нёман, што плыве праз аркі
Усіх узведзеных мастоў.
Стары і Новы — твае замкі
Заўжды прыцягваюць народ.
І даўніны далёкай знакі
Мужнеюць побач з году ў год.
Калі іду па звонкім бруку,
Я бачу твой сучасны лад —
Нібы з вякоў працягнеш руку,
І цвёрды камень — быццам брат.
А колькі тут было паэтаў…
Мацнеў іх почырк кожны раз!
І паважае свет за гэта:
Што ні радок — вышэйшы клас.
Усіх яднаеш да асновы,
Каб непаўторным стаў віток.
І застануцца людзям словы,
Як Багдановіча «Вянок»…

## Плошча Тызенгауза

Плошча Тызенгауза...
Ціхія дамы…
Невялікім сказам
Радуемся мы.
Тут яго дыханне,
Тут яго душа.
Светлае каханне,
Што было спярша.
Ды застаўся почырк,
Цвёрдая рука…
На сучаснай плошчы
Фарбы мастака.
І сягодня Гродна,
Як яго працяг,
Велічна і годна
Уздымае сцяг.

## Ранак жыцця

Над вадою клубіўся туман…
Белы-белы, нібы малако.
У прыроды гарачы раман —
Цалавалася неба з ракой.
Урачыста світанак палаў
Над задумлівай поймай ракі,
І прамень першабытна кранаў
Востры край залатой асакі.
Заківаў галавою чарот,
Вербы з воч пакрывала знялі,
І віроў зацалаваны рот
Засмяяўся, як хвалі плылі.
Ах, як хочацца жвавай вадзе
Заставацца такой, як раней…
Ранак плыў у сягонняшні дзень
Жаніхом на зялёным чаўне…

Алег САЛТУК



## Развага

У беласнежнай цаліне,
Калі хацін канькі ў сумётах,
Толькі ўспаміны закранеш —
І ўраз адступіць адзінота.

І з настальгіяй па былым
Усё прыпомніш і пакрочыш
Туды, дзе колісь кветак дым
Салодка так
туманіў вочы.

О, як праменіла свята
Над салаўінай песняй мая!..
Адкрасавала, адцвіло
І знікла ўсё за небакраем.

Стаў іншым сёння, за табой
Ужо не дым, а смог паўсюды.
І жалю неадступны боль,
Што хутка так
знікаюць цуды.

Што ты пражыў, як набяжыць,
І ў тлуме пошасці не бачыў,
Як на расе зара гарыць,
А ўсё шукаў, шукаў удачу…

Балюе студзень за акном.
На вуліцы ні чалавека.
І ўсё здаецца дзіўным сном,
Фантасмагорыяй
і здзекам.

## Бяссонніца

Гадзіннік прабіў тры гадзіны,
Дакладней, пракукаваў.
Такіх рарытэтаў адзінкі:
Не ведаю, хто і купляў.
Кукуе, хаця й сіплавата.
Што кажа, не зразумець.
Нястрымна над цёплаю хатай
Нябёсы равуць,
як мядзведзь.

І думкі то ткуцца,
то рвуцца,
А стрэлкі малююць кругі.
Куды так імкліва нясуцца,
Не скажуць нікому снягі.

## Пяшчота

Бясконца на вуліцы
круціць і дзьме
Завея, як фея, збялела.
Адны мы з табою
ў бяскрайняй зіме,
Якая знянацку заспела.

Няважна — вазьмі,
як раней,
абдымі,
Засмейся прыгожа,
вясёла.
Мароз барадаты
стаіць
за дзвярмі,
Не бачна ні неба,
ні долу.

Нальём па кілішку
і вып'ем віно,
Пабудзем і мы маладымі.
Хаця з-за віхуры даўно
не відно
Мінулага ў бэзавым дыме.

Няхай абыходзіць
нуда і бяда
І радасць не ведае лішку.
Мне года старога
заўсёды шкада,
А новага — боязна крышку.

Ды разам заўсёды
яно весялей.
Ёсць хлеб, і да хлеба
ёсць песня.
Давай жа абдымемся,
сядзем цясней,
Як некалі ў ранак
наш весні.

Якая за вокнамі цёплая бель,
Якая на сэрцы пяшчота!
І хмеліць забытае
радасці хмель,
Сыходзіць мая адзінота.

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ



## «…Любую, адзіную, маю…»

***

Чаканне холаду і снегу —
Нібыта прадчуванне слёз,
Калі ізноў прыносіць лёс
Дыханне сцішанага бегу.
Здаецца, не хапае сіл.
Хаця да фінішу далёка…
І стыне вечар адзінока
Сярод бярозак і асін.

***

Навакол ізноў слата імжыцца,
Голы клён ад холаду дрыжыць…
Пэўна, трэба сэрцам далучыцца,
Каб усё вось гэта палюбіць.
Пэўна, з гэтым трэба нарадзіцца
І, пабыўшы ў сонечных краях,
Зразумець, што лепшы з іх —
Радзіма,
Вось такая, ды заўжды мая.
Я далонню з твару слёзы вытру,
На вятрыску золкім пастаю.
Лёс такую мне з маленства выбраў —
Любую, адзіную, маю.

## Пасля адной радыёперадачы

Гітарай, скрыпкамі, валторнамі
Сусвет зазыўна загучыць.
Чытайма Тодара Кляшторнага,
Ён з намі хоча гаварыць.
У хаце цёплай ці на лецішчы,
У электрычцы і метро
Чытайма юнака з-пад Лепеля,
Баяна пушчаў і бароў.
Якое хараство сустрэнеце,
Суквецце мілых родных слоў!..
І лёс, што абарваўся стрэламі,
Згадайма з горкім сумам зноў.

***

Снег, зляжалы і коўзкі
Рыпне зноў пад нагой.
Ды ў кватэры Таркоўскі
На паліцы маёй.
Быццам промнік вясенні
Паглядае з-за хмар.
Там Таркоўскі Арсеній,
Чыстых дум уладар.
Калі млосна ўжо стане,
Так, што цяжка трываць,
Прыйдзе светла жаданне
Яго вершы чытаць.
Бо заўсёды патрэба
У збалелай душы
Сонца, птушак і неба,
Паху цёплага хлеба,
Шчасця верыць і жыць

## У Асвенцыме

А з воблака — бліжэй да Бога,
Ды толькі дымам стаў спярша…
Бездапаможнага старога
Маркотна маецца душа.
Бо тут, у лагеры ў Еўропе,
Пад енкі і аўчарак брэх
Людзей ператваралі ў попел,
Што падаў хлоп'ямі на снег.
Ды толькі голы ён і босы,
Навекі перажыўшы час,
Глядзіць з самотаю з нябёсаў
У вечнай роспачы на нас.

***

Як нядаўніх памылак вязьмо,
Як адчаю задушаны гук,
Раптам ранкам ахутае смог
Тлумных вуліц абуджаны гул.
Заварожыць дыханнем сваім
І туманам густым пацячэ.
Што ж нясе нам загадкавы дым,
Што хавае ад пільных вачэй?
І каму ён падставіць крыло,
І каго ён саб'е раптам з ног?
Вось каханне маё праплыло — Смог.
Хто ўратуе ад злоснай маны,
Хто надзеі адправіць пісьмо?
Туманы, туманы, туманы
Над зямлёю збіваюцца ў смог.

***

Не, яшчэ не высахлі крыніцы,
Быльнягом не зараслі палі.
Жураўлі — у небе, а сініцы
Адпаведна побач — на зямлі.
Толькі ўсё ж так цягне ў паднябессе!..
І душою хочацца ізноў
Паляцець туды, у высь, да песні,
Да палёту гордых жураўлёў.
За дарогай шэры пыл клубіцца,
Ціхі працінаючы спакой.
Жураўлі, што ў небе, і сініцы
У душы змагаюцца маёй.



Фота Кастуся Дробава

## Генадзь АЎЛАСЕНКА

# Тэлефон даверу



Бравурная мелодыя мабільніка загучала так блізка і так нечакана, што юнак нават уздрыгнуў. Ён чамусьці быў упэўнены, што пакінуў мабільнік у пярэдняй. У кішэні курткі, якую, зайшоўшы ў кватэру, проста шпульнуў абыякава на падлогу побач з бруднымі чаравікамі…

Але аказалася, што мабільны тэлефон пасля той апошняй горкай размовы з Ірынай, ён паклаў не ў куртку, а чамусьці ў заднюю кішэню джынсаў. І вось цяпер мабільнік гэты вельмі жадаў пра што пагаманіць з гаспадаром.

З крана з шыпеннем, свістам і непрыемным булькатаннем вырывалася гарачая вада… Але і яна не магла заглушыць умольнага жадання мабільніка. «Ну, вазьмі ж мяне, вазьмі!» — здавалася, крычаў ён, выглядваючы з кішэні джынсаў, што ляжалі сінім неахайным камяком зусім непадалёку, ля зялёнай кафельнай сцяны.

— Зайка мая! — нечакана змяніўшы танальнасць, загаласіў тоненькім галаском мабільнік. — Я твой коцік! Рыбка мая…

— Ды змоўкні ж ты! — працадзіў юнак, падфутбольваючы джынсы босай нагой. — Заткніся, адным словам! Няма мяне тут! І, наогул, нідзе мяне няма зараз, зразумеў?!

Але мабільнік, пэўна ж, анічога не зразумеў, таму што ніяк не мог суняцца і ўсё працягваў звонка да залівіста галасіць… І юнак раптам перадумаў. Тым больш што вады яшчэ і на палову ванны не набегла.

А можа… можа гэта Ірына? — міжволі падумалася яму. — Можа, яна штосьці такое зразумела і перадумала? Ды не, быць такога не можа. Ці я не ведаю Ірыны! А калі не Ірына, то хто? Ды якая, блін, розніца! Хто заўгодна, абы не маці! Маці мне зараз толькі не хапала!

Нумар, які высвяціўся на экране, быў нейкім незнаёмым і, адчуўшы з прычыны гэтага адначасова і палёгку, і самае горкае расчараванне, юнак, крыху павагаўшыся, усё ж паднёс мабільнік да вуха. Што ж, час яшчэ быў…

— Слухаю! — прагаварыў ён хрыпата і амаль непрыязна.

І адразу ж пачуў у адказ усхваляваны дзявочы голас.

— Алё! Алё! — не прагаварыла нават, а з усяе моцы пракрычала дзяўчына. — Алё! Вы мяне слухаеце?!

— Слухаю! — паўтарыў юнак, адначасова з гэтым дакранаючыся далонню да вады. Занадта гарачая, не ўлезці… Трэба халоднай крыху дадаць. Ці не трэба, і так астыне?

— Гэта тэлефон даверу?!

— Што?!

Пытанне было настолькі недарэчным і нечаканым, што юнак нават разгубіўся.

— Гэта тэлефон даверу? — паўтарыла дзяўчына і змоўкла ў чаканні адказу.

А што ён мог ёй адказаць?!

— Чаго вы маўчыце? — спыталася дзяўчына дрыготкім, спалоханным голасам. — Я што, зноўку не туды патрапіла?

— Туды! — нечакана для сябе самога прагаварыў юнак. — Менавіта туды, куды і тэлефанавалі!

Ён змоўк, маўчала і дзяўчына. Гэтае ўзаемнае іх маўчанне доўжылася даволі працяглы час.

— Разумееце, я і сама не ведаю, чаму вырашыла раптам патэлефанаваць на ваш нумар, — прагаварыла нарэшце дзяўчына. — Проста я… проста ў мяне…

— У вас нейкія праблемы ўзніклі? — спытаўся юнак і адключыў ваду. Лепш за ўсё было б скончыць размову зараз, і нават неабходна было скончыць яе менавіта зараз, пакуль вада зноў не астыла, але юнак працягваў трымаць тэлефон каля вуха і нават з нейкім нецярпеннем чакаў адказу на сваё пытанне.

— Праблемы? — перапыталася дзяўчына. — Не, дакладней, што я маню: вядома ж, узніклі! Справа ў тым, што я… што ў мяне…

Не дагаварыўшы, дзяўчына змоўкла.

— Справа ў тым, што ў цябе… — неяк непрыкметна пераходзячы на «ты», паўтарыў юнак амаль машынальна і, спахапіўшыся, дадаў: — І што ж у вас за праблемы?

— Ён абразіў мяне! — са слязамі ў голасе пракрычала дзяўчына. — Ён так абразіў мяне, што я… што мне не хочацца жыць, разумееце?! Проста не хочацца! Навошта жыць, калі яго больш не будзе ў маім жыцці, калі ён так жорстка са мной абышоўся?! І таму я… таму я…

— Таму ты вырашыла пакончыць жыццё самагубствам? — зноўку пераходзячы на «ты», без усялякага здзіўлення альбо яшчэ нейкіх эмоцый закончыў юнак фразу, якую так і не змагла выгаварыць да канца дзяўчына. — Ну, і якім жа канкрэтна спосабам ты збіраешся гэта зрабіць? Пры дапамозе снатворнага, ці не так?

— Як ты… Як вы здагадаліся? — не прагаварыла нават — прашаптала дзяўчына. — Сапраўды, я сяджу зараз на канапе ў спальні, а побач са мной вялізная бляшанка з самымі разнастайнымі таблеткамі. І я… мне… мне засталося толькі выбраць…

Яна зноў змоўкла, а юнаку раптам стала і смешна, і прыкра адначасова. Ну, трэба ж, сітуацыя! Як кажуць, знарок не прыдумаеш!

— Чаму вы маўчыце? — спыталася дзяўчына.

— Ды я не маўчу… — нейкі ідыёцкі смех разабраў юнака, ён з цяжкасцю стрымліваўся, каб не зарагатаць. — Я проста думаю, якія б з таблетак табе лепш параіць. Калі шчыра, я невялікі спецыяліст, але пастараюся дапамагчы, тым больш што ты менавіта дзеля гэтага сюды і патэлефанавала…

Ён змоўк, чакаючы, што ж адкажа дзяўчына, але тая так нічога і не адказала. Праўда, тэлефон працягвала трымаць каля самага вуха, і юнаку добра чутна было ўсхваляванае, перарывістае і занадта частае дыханне.

— А можа, табе выкарыстаць якісьці іншы спосаб самагубства? — нечакана нават для сябе самога і нібыта раздумваючы прапанаваў юнак. — Да прыкладу, вяроўку. Калі ёсць куды зверху прывязаць — самае тое! Хутка і надзейна, і амаль не балюча, толькі не забудзься добранька яе намыліць перад гэтым. Хоць не, вяроўка не пасуе, бо вы, дзяўчаты, нават пасля смерці жадаеце выглядаць прыгожа і эстэтычна. Тады брытва! Ведаеш, мармурова-белы колер скуры, калі цябе знойдуць, будзе вельмі пасаваць ярка-крывавай пляме вакол… а таму…

— Як вы… чаму вы… — разгублена і нават збянтэжана прашаптала дзяўчына і раптам закрычала са злосцю і адчаем: — Як вы… як вы можаце ў такі момант здзекавацца, насміхацца?! Хто даў вам такое права?! Такіх цынікаў, як вы, і на гарматны стрэл нельга дапускаць да тэлефону даверу… гэта вы можаце зразумець?!

Нічога не адказваючы, юнак проста трымаў мабільнік каля вуха, а дзяўчына ўсё працягвала гучна выкрыкваць новыя абвінавачванні ў ягоны адрас.

Нарэшце яна змоўкла, але сувязь чамусьці і на гэты раз не перапыніла, хоць юнак на гэта спадзяваўся. Не хапала яшчэ, каб вада занадта астыла і яе зноўку прыйшлося падаграваць…

— Паслухайце, — прагаварыў ён у мабільнік, зноўку пераходзячы на «вы». — Адкажыце мне на адно толькі пытанне, толькі на адно. Навошта вы сюды патэлефанавалі, з якой мэтай? Вы падсвядома чакалі, што вас пачнуць суцяшаць, адгаворваць ад спробы суіцыду? Дык вось, я не стану ні суцяшаць, ні адгаворваць! Давайце, глытайце свае таблеткі, усе якія ёсць, і як мага больш глытайце! А потым кладзіцеся на сваю канапу і…

— Не буду! — ціха, ледзь чутна адказала дзяўчына. — Ні глытаць, ні класціся на канапу! І, ведаеце, дзякуй вам вялікі!

— За што? — недаўменна спытаўся юнак… Ён і на самой справе нічога не разумеў. — За што дзякуй?

— За тое, што не суцяшалі мяне, не ўпрошвалі. Бо гэта не дапамагло б. Я нават упэўнена, што не дапамагло б… А так… вы проста малайчына, бо знайшлі якраз тыя словы — тыя адзіныя, якія і дапамаглі мне зараз! А ў рэшце рэшт што я дзіўлюся — гэта ж ваша прафесія!

У мабільніку нарэшце пачуліся кароткія гудкі, але юнак гэтага нават і не заўважыў. Нібыта ў нейкім дзіўным здранцвенні працягваў сядзець на самым краёчку ванны, моцна сціскаючы ў правай руцэ мабільнік і вачэй не зводзячы з бліскучага ляза брытвы на падлозе...

Пяць хвілін таму ўсё было проста і зразумела: набраць вады, залезці ў яе па шыю… а потым…

Гэты званок усё парушыў! Навошта было хапаць мабільнік, навошта было падносіць яго да вуха і слухаць блытаную лухту невядомай гэтай дурніцы, якая нават нумар правільна набраць не ў стане?! Ну, так… Ён толькі што выратаваў ёй жыццё… Якая іронія лёсу! Ён, будучы самазабойца, толькі што адгаварыў ад падобнага ж кроку нейкую незнаёмую дзяўчыну! І яна будзе жыць… Жыць надалей і радавацца жыццю, у той час, як ён сам, як яго…

Як яго ўжо не стане…

Вось толькі ці хопіць у яго зараз духу самому рашыцца на гэты апошні крок? І цікава, ці прыгожая яна, гэтая дзяўчына? Калі меркаваць па голасе, дык вельмі…

***

— Клас! — сказаў Толік, адводзячы погляд ад экрана. — Найвышэйшы клас і найвышэйшая адзнака па элементарнай псіхалогіі! І, ведаеш, з цябе неблагая актрыса выйшла б, Ксенія!

— А то! — адказала я, кідаючы тэлефон на стол і салодка пазяхаючы. — Стараемся! Колькі там яшчэ да канца дзяжурства засталося?

— Амаль паўгадзіны, — сказаў Толік і таксама пазяхнуў. — Дык што, можа, крыху яшчэ за ім паназіраем?

— Навошта?

— Ну, так, на ўсялякі выпадак! — Толік паціснуў плячамі. — А раптам усё ж перадумае…

— Не перадумае!

Я ўзнялася з крэсла, прайшлася па пакоі.

— Зараз ён яшчэ крышачку пасядзіць, пазіраючы, як сыходзіць вада, потым апранецца і абавязкова выйдзе на вуліцу. А яшчэ потым…

— А яшчэ потым, — перабіў Толік, — ён захоча патэлефанаваць табе, каб дамовіцца пра спатканне. І ты, вядома ж, згадзілася б, хіба не так? З адной толькі цікаўнасці… Вось толькі адкажа яму па гэтаму нумару ўжо хтосьці іншы. Шкадуеш?

— Здзекуешся? — у тон яму адказала я і, усміхнуўшыся, дадала: — Ці, можа, раўнуеш?

— Можа, й так, а можа, й гэтак… — буркнуў Толік і неяк нявесела ўсміхнуўся мне ў адказ. — Шкада толькі, што ты нават увагі на мяне…

— Увага! — прагаварыў аўтаматычны голас з-пад панелі. — Трэці квадрат «А», сіняя жылая зона. Яшчэ адна спроба суіцыду. Дзяўчына, сямнаццаць гадоў. Стаіць на балконе, на дванаццатым паверсе. Верагоднасць таго, што скінецца ўніз — восемдзесят восем працэнтаў.

Мы з Толікам пераглянуліся. Я зноўку ўсміхнулася, а Толік уздыхнуў.

— Дзяўчына… Гэта па тваёй частцы! — не без іроніі прагаварыла я. — Так што, давай, праяўляй свае акцёрскія здольнасці! Зарабляй найвышэйшы бал!

— Мабільнік адключаны, — працягваў між тым голас з-пад панелі. — Але ў пакоі, на стале, стаіць гарадскі тэлефон. Трэба спяшацца. Верагоднасць таго, што скінецца ўніз, узрастае: дзевяноста працэнтаў… дзевяноста адзін працэнт… дзевяноста два…

— Ды чую, чую! — неахвотна прамармытаў Толік, узнімаючы трубку і хуценька набіраючы нумар. — Блін, хутчэй бы ўжо гэтае дзяжурства скончылася!

***

Адсюль, зверху, усё здавалася такім маленькім, амаль што цацачным. І асфальтавая дарожка пад балконам выглядала вузенькай да таго, што была рэальная магчымасць на яе не патрапіць. Проста праляцець міма і бразнуцца ў гэтыя калючыя кусты. Падрапацца аб іх, паламаць рукі-ногі, адбіць унутранныя органы… Магчыма, вока выкалаць, але…

…але, тым не менш, застацца жывой… жывой, і…

…і скалечанай на ўсё астатняе жыццё, колькі там яго яшчэ застанецца…

Не, толькі не гэта! Такое горш за смерць!

Дзяўчына зноўку паглядзела ўніз і раптам уявіла сабе, як усё гэта будзе адбывацца. Кароткі хуткі палёт з пранізлівым свістам ветру, балючае судакрананне з асфальтам (калі патрапіць!) і… усё! А ўсё, што далей ці няма… пра гэта нікому канкрэтна невядома…

Тэлефон раптам рэзка і пранізліва зазвінеў у пакоі, прымусіўшы дзяўчыну ўздрыгнуць і азірнуцца.

«Не падыходзь! — прашаптаў ёй нейкі ўнутраны голас. — Калі вырашыла пакончыць з усім гэтым раз і назаўсёды — проста рабі сваю справу! Хопіць вагацца і адкладваць… Ці ты проста спалохалася і перадумала?»

Дзяўчыну палохала толькі адно: не патрапіць на гэтую вузенькую палоску асфальту ўнізе. А тэлефон патрашчыць і змоўкне, і вось калі ён змоўкне, тады настане і яе чарга…

Але тэлефон усё ніяк не змаўкаў, і дзяўчыне раптам падумалася, што, магчыма, гэта тэлефануе Кірыл! Што, магчыма, ён перадумаў і ўсё зразумеў, і зараз будзе прасіць у яе прабачэння. А чаму б яму і сапраўды не зразумець відавочнага і не папрасіць прабачэння? А ўжо яна сама…

Яна сама будзе вырашаць, прабачыць яму адразу ж ці няхай крыху памучаецца, калі толькі…

… калі толькі гэта ён тэлефануе зараз…

Але гэта быў не Кірыл, і дзяўчына, вярнуўшыся ў пакой і ўзняўшы трубку, адчула раптам горкае расчараванне. Не трэба было ёй падыходзіць, не трэба было здымаць трубку дзеля таго толькі, каб пачуць гэты жаласлівы і дрыготкі юнацкі голас здалёк…

— Алё! — паўтарыў юнак і голас яго задрыжаў яшчэ мацней, здавалася, яшчэ хвіліна — і незнаёмец расплачацца ў поўны голас, нібыта малое дзіця. — Алё! Гэта тэлефон даверу?!

# Разумець чалавека ў стагоддзях

Леанід Дайнека, які 28 студзеня адзначыць сваё 75-годдзе, вядомы найперш як знакаміты раманіст, які на дзіва плённа абжывае гістарычную праблематыку. Таму многія чытачы, асабліва малодшыя пакаленні, і не здагадваюцца, што пачынаў ён свой творчы шлях як паэт. Дый дасягнуў у гэтым кірунку значных поспехаў, пра што засведчылі паэтычныя кнігі «Галасы», «Бераг чакання», «Начныя тэлеграмы», «Мая саракавая вясна», «Вечнае імгненне», томік выбранага «Сняжынкі пад агнём». Да прозы ішоў паступова. Урэшце ў 36-гадовага паэта выйшла кніга апавяданняў «Бацькава крыніца», якая стала свайго роду штуршком да новай спробы — рамана.

Спачатку Л. Дайнеку зацікавілі падзеі нядаўняга мінулага. У раманах «Людзі і маланкі» і «Запомнім сябе маладымі», што склалі дылогію, пісьменнік асэнсоўвае пераўтварэнні рэвалюцыйных гадоў. У рамане «Футбол на замініраваным полі» яднаюцца сучаснасць і Вялікая Айчынная вайна. Відавочна, пісьменнік з цягам часу абавязкова зазірне ў «сівую даўніну», калі ўжо ступіць на гістарычны шлях. Прынамсі, у кнізе «Начныя тэлеграмы» поруч з іншымі творамі была змешчаная паэма «Песня белага снегу», у якой расказваецца пра барацьбу казацка-сялянскіх атрадаў на Украіне і Беларусі ў XVI — XVII стагоддзях. У «Вечным імгненні» прадстаўлены вершаваны цыкл «Постаці гісторыі айчыннай»: сярод асоб, што зацікавілі Л. Дайнеку, быў Вячка.



*Князь Вячка ва ўвасабленні графіка Уладзіміра Лукашыка.*

Гэты князь стаў галоўным героем першага гістарычнага рамана Л. Дайнекі «Меч князя Вячкі». Ва ўступе «Слова на дарогу» пісьменнік прызнаваўся, што яму «даўно… хацелася напісаць пра беларускую мінуўшчыну. Сверб стаяў у душы, незагойная стрэмка ныла ў сэрцы. Ды, як гаворыцца, на кожнае хаценне патрэбна ўменне і цярпенне. Яшчэ ў маленстве, чытаючы кніжкі пра слаўтых віцязяў, пра аблогі гарадоў, пра жахлівыя вастрападобныя бярвенні-тараны, якія, нібы шкарлупінне, праломвалі акутыя жалезам брамы, марыў я нейкім чынам сустрэцца з продкамі — з крывічамі, дрыгавічамі, радзімічамі. Але як?»

Раманам «Меч князя Вячкі» пісьменнік сам адказаў на сваё пытанне: праз заглыбленне ў нацыянальную даўніну, праз асэнсаванне лёсаў людзей, якія жылі не адно стагоддзе да нас, але якія, тым не менш, — наша кроўная радня. Як тыя з іх, чые імёны дайшлі да сучаснасці, так і тыя, згадкі пра каго згубіліся на ростанях часу.

Зразумела, у рамане «Меч князя Вячкі» Л. Дайнека ўвасобіў не толькі воблікі рэальных гістарычных асоб, а і тых, каго нарадзіла яго шчодрая фантазія. Пры гэтым, дзякуючы цудоўнай дасведчанасці аўтара ў тым часе, які ён узнаўляў, прыдуманыя героі паказаныя не толькі такімі, якімі маглі быць, але такімі, якімі былі. Гэткага падыходу Л. Дайнека прытрымліваўся і пры напісанні свайго наступнага рамана «След ваўкалака», героем якога стаў легендарны Усяслаў Чарадзей. Перш чым узяцца за пяро, пісьменнік нямала папрацаваў у архівах, звяртаўся да прац многіх гісторыкаў і даследчыкаў даўніны. Л. Дайнека перакананы: «Той, хто хоча працаваць на ніве беларускай гістарычнай белетрыстыкі, павінен ведаць польскую мову, арыентавацца ў літоўскай, нямецкай і латыні».

Затое і вынік чаканы. Атрымаліся раманы, якія спатаблагаюць жаданне тых, хто прагне лепей ведаць як нацыянальную даўніну ў цэлым, так і лёс асобных яе прадстаўнікоў, што пакінулі асабліва глыбокі след у гісторыі. Умелая пабудова сюжэта забяспечвае захапляльнае чытанне, у якім ёсць тое, што патрапляе пад вызначэнне прыгоды. Але ўвядзенне прыгодніцкіх элементаў для Л. Дайнекі — не самамэта, а толькі мастакоўскі прыём, неабходны для інтрыгавання чытача, для таго каб трымаць яго ў пастаянным напружанні. Каб ён, з нецярпеннем чакаючы развязкі, усё глыбей пранікаў у сутнасць тагачасных падзей, узаемаадносін пэўных персанажаў і тым самым спасцігаў саму нацыянальную гісторыю, якая шмат дае кожнаму, хто ставіцца да мінулага неабыякава, імкнецца яго спазнаць.

Падобным шляхам некалі ішоў Уладзімір Караткевіч. Сёння Л. Дайнека адзін з найбольш адметных яго паслядоўнікаў, якія працягваюць урабляць гэтую цяжкую і разам з тым такую ўдзячную літаратурную дзялянку, што дапамагае, кажучы словамі самога Л. Дайнекі, «разумець чалавека ў стагоддзях».

Пішучы свой варыянт мастацкай біяграфіі Бацькаўшчыны, перагортваючы чарговую яе старонку, Л. Дайнека заўжды знаходзіць магчымасць прыгадаць герояў сваіх папярэдніх твораў. У рамане «Жалезныя жалуды», калі Ізяслаў (адзін з князёў, што правілі некалі на новагародскай зямлі) расказваў сваім сынам Далібору і Някрасу, якія агрэсіўныя крыжакі, княжычы ў адзін голас ускліпнулі: «Хто не ведае Вячку!». Ізяслаў згадзіўся з імі: «Вячку ўсе ведаюць… Такія людзі жывуць вечна, як багі», — і параіў сваім сынам: «Вучыцеся ў яго, дзеці мае, вернасці і мужнасці. Будзеце такія, як ён, ніколі вораг не ўзыдзе на новагародскі дзядзінец, на нашы курганы, у якіх ляжаць косці прадзедаў».

Вучыцца вернасці і мужнасці ў продкаў — такім памкненнем прасякнута ўся гістарычная проза аўтара. Але асабліва гэта характэрна для рамана «Назаві сына Канстанцінам», у якім ахоп падзей — у часе і прасторы — шырокі, як ні ў якім іншым рамане аўтара, а элементы містыкі і фантастыкі паяднаныя з рэалістычнымі малюнкамі.

Пісьменнік не толькі цесна знітаваны з мінуўшчынай — ён смела ўзіраецца і ў далёкае будучае, пра што засведчыў фантастычны раман «Чалавек з брыльянтавым сэрцам», дзеянне ў якім адбываецца «на 223 годзе Вялікай Эры Плюралізму».

Шматграннасць творчай асобы — таксама адно з важкіх сведчанняў сапраўднага таленту. А што таленавіта, тое і запатрабавана.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# «Дарагі Міхаіл! Атрымаў твой ліст...»

**Зазірнуўшы ў «Энцыклапедыю літаратуры і мастацтва Беларусі», мы можам знайсці біяграфію калмыцкага паэта Міхаіла Хонінава (1919 — 1981). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, ён партызаніў на Беларусі. Сябры па зброі называлі яго Міша Чорны, а нямецкія акупанты прызначылі за яго галаву высокую ўзнагароду.**

Адзнака беларускай пашаноты сыну калмыцкага народа — наданне Міхаілу Хонінаву звання ганаровага грамадзяніна горада Беразіно. У Мінску на беларускай мове выйшлі дзве яго кнігі паэзіі — «Хвоі і цюльпаны» (1970) і «Жураўлі над стэпам» (1977). Вершы калмыцкага аўтара перакладалі Пятрусь Броўка, Максім Танк, Аляксей Пысін, Рыгор Барадулін і іншыя майстры гэтай справы.

Характар зносін М. Хонінава з Беларуссю, беларускай літаратурай у некаторай ступені патлумачваюць лісты, адрасаваныя ў Элісту. Іх аўтары — і перакладчыкі, і проста сябры, знаёмыя Міхаіла Ванькаевіча. Вось што піша ў Элісту 21 верасня 1963 года Эдзі Агняцвет:

*«Дарагі таварыш Міхаіл Хонінаў! Учора, дзякуючы нашай газеце «Літаратура і мастацтва», я даведалася пра тую вялікую працу, якую Вы вядзеце на карысць усіх беларускіх сяброў.*

*Сардэчна дзякую Вам!*

*Буду рада, калі Вы дашлеце мне нумар газеты «Хальмг унн», дзе надрукавана старонка беларускай паэзіі, ад 11.VIII гг.*

*Дасылайце нам і свае вершы з падрадкоўнікамі.*

*Дасылаю Вам кнігу вершаў для дзяцей у рускім перакладзе.*

*Жадаю Вам вялікіх поспехаў і шчасця!..»*

Ліст аддрукаваны на машынцы. А ніжэй — прыпіска ад рукі: «*Чакаем і Вашай новай кнігі! Э. А.*»

Цікавым падаецца ліст Алеся Бачылы. Ён — без даты.

*«Дарагі Міхаіл! Атрымаў твой ліст і падрадкоўнікі. Дзякуй за добрыя словы і памяць. Адзін верш «Балада пра грозныя хмары» я пераклаў сам. Калі ты чытаеш па-беларуску, я табе магу даслаць, толькі дай знаць. Думаю, што «Балада...» можа пайсці ў дні Перамогі. Але ўжо майскія нумары часопісаў даўно ў вытворчасці. Пастараюся прапанаваць верш газеце «Літаратура і мастацтва».*

[...]

*Пасля паездкі па пушкінскіх мясцінах напісаў некалькі вершаў, а дакладней трыпціх «Памяці А. Пушкіна». А ўвогуле ўвесь час пішу вершы, складваю, каб яны адляжаліся, а пасля буду ўжо канчаткова шліфаваць. Пакуль ёсць натхненне, трэба пісаць так, як кладзецца на душу, а пасля ўжо ў напісаным вывяраць болей дакладна крытычным вокам, якое дае час.*

*Вось і ўсе мае навіны. Калі ўзнікнуць якія-небудзь пытанні, тады напішу табе яшчэ. У нас рыхтуюцца адзначаць 30-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. А ў гэтым ёсць і твая доля заслуг немалая...»*

Яшчэ раней да перакладу вершаў М. Хонінава звярнуўся Генадзь Бураўкін. Пра гэта гаворыць і ліст беларускага паэта ад 20 студзеня 1969 года:

*«Дарагі Міхаіл!*

*Дасылаю два экзэмпляры газеты «Літаратура і мастацтва» з маімі перакладамі тваіх вершаў на беларускую мову. Прабач, што раблю гэта са спазненнем. Віншую цябе з узнагароджваннем Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. Жадаю ўсяго найлепшага.*

*Вялікае прывітанне тваёй сям'і!..»*

Відавочна, недзе з тых гадоў — і ліст Рыгора Барадуліна:

*«Дарагі Міхаіл! Мне прынесла велізарнае задавальненне перакладаць твае выдатныя вершы.*

*Гэта не была праца, гэта было адной радасцю. Цяжкасці ў перадачы глыбокіх думак і творчым пераўвасабленні — тут не ў разлік.*

*Вялікі Табе дзякуй, дарагі дружа, за такія вершы!*

*Да сустрэчы на Беларускай зямлі. Дарэчы, нам з Толем прыемна было бачыць цябе пераможцам «Огонька»!*

*Твой Рыгор...»*

Міхаіл Хонінаў, якога часта бачылі ў Беларусі, якога з задавальненнем друкавалі беларускія газеты і часопісы, уяўлўся сваім чалавекам, быў добрым сябрам многіх пісьменнікаў. Словы пра «другую радзіму» ў дачыненні да Беларусі былі для калмыцкага паэта не пустым гукам.

Сярод сяброў Міхаіла Хонінава быў і паэт Анатоль Грачанікаў. Ён пісаў: «*У пярэдадзень дня Перамогі і юбілею вызвалення Беларусі цябе, слаўнага воіна, любімага героя беларускай зямлі, сардэчна віншую са святам...*». Варты ўвагі ліст магілёўскага паэта Аляксея Пысіна, датаваны 17 верасня 1974 года. Сам франтавік, тонкі лірык, Аляксей Васільевіч па-сапраўднаму пасябраваў з Міхаілам Ванькаевічам. Выступаў разам з ім перад чытачамі, расказваў пра адважнага партызана і таленавітага пісьменніка са старонак «Магілёўскай праўды», іншых выданняў. Але звернемся да слоў самога Аляксея Пысіна:

*«Дарагі Міхаіл! Атрымаў пісьмо і вершы. Вялікі дзякуй. «Клічаў» адразу ж пераклаў. Перадаў у «Маг. праўду», пойдзе ў літ. старонку. Другі экзэмпляр пашлю ў «Звязду».*

*Высветлілася, я магу перакладаць толькі зарыфмаваныя радкі. Гляджу на падрадкоўнікі, унікаю і не ведаю, з якога боку падступіцца. З падрадкоўнікаў я ніколі не перакладаў, ніякага вопыту, проста губляюся. А вось «гатовую» страфу (ужо, скажам, перакладзеную на рускую) адразу ўлаўліваю, уяўляю, бачу. Паспрабую яшчэ, не ведаю, атрымаецца ці не. Відаць, усё ж трэба мне ісці следам за рускім перакладам. Не крыўдуй, я ж шчыра гавару. Дасылай мне вершы перакладзеныя. Я так і Мусу Джаліля перакладаў (з рускай), таму ніяк інакш не магу. «Аваподаў» пакуль толькі адным метадам. Па-братэрску абдымаю. Прывітанне тваім родным і блізкім...»*

У архіве Міхаіла Хонінава захоўваюцца і іншыя лісты ад беларускіх пісьменнікаў — выразны паказчык таго, як шмат у развіцці міжлітаратурных стасункаў залежыць ад яркай творчай асобы. Вялікую работу па захаванні спадчыны паэта робіць яго дачка — Рыма Міхайлаўна Ханінава, паэтэса, перакладчык, літаратуразнаўца. Яна вядзе актыўную перапіску з бібліятэкамі Беларусі тых мясцін, дзе ваяваў і бываў пасля вайны яе бацька. У добрых стасунках з Рымай Міхайлаўнай малады беларускі паэт Рагнед Малахоўскі, які сёння па рускамоўных падрадкоўніках перакладае яшчэ невядомыя ў Беларусі творы Міхаіла Хонінава.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# Экстрэмальны занятак




У апошнім за 2014 год нумары «Полымя» ёсць публікацыя, вартая асаблівай увагі: гэта круглы стол пад назвай «Экстрэмальна небяспечны занятак», арганізаваны Ладай Алейнік і прысвечаны дзіцячай літаратуры. Справа нават не ў тым, што менавіта дзіцячая літаратура шмат у чым прадвызначае нашую будучыню, выхоўваючы людзей, якія тую самую будучыню ствараюць. І не ў тым, што моладзь быццам бы меней чытае. Увагу прыцягвае іншае — парады, вельмі слушныя і дзейсныя, якія ўдзельнікі «круглага стала» — прафесійныя філолагі — даюць аўтарам, выдавецтвам, рэкламістам і бацькам, занепакоеным нечытаннем новага пакалення.

Людміла Сінькова, доктар філалагічных навук, прафесар, пачынае размову з Караткевіча. У свой час ён адкрыў ёй вочы на тое, што Радзіма — не абстракцыя, што яна сапраўды існуе тут і цяпер. Упэўненая, многія з тых, хто чытае гэтыя радкі, прыйшлі да Беларусі такім жа шляхам. Але чаму так адбываецца? Што захапляе маладога чалавека і прымушае іншымі вачыма паглядзець на свет вакол сябе і сябе самога? У чым сакрэт такога поспеху пісьменніка? Так, у творах Караткевіча ёсць тое, што завецца «высокімі маральнымі ўстаноўкамі», але наўрад ці менавіта яны захапляюць чытача. Ёсць неад'емная любоў да Радзімы і здаровы патрыятызм, але прызнайцеся: хіба гэта прывабіла вас у «Дзікім паляванні караля Стаха», у «Чорным замку Альшанскім», тым больш — у рамане «Нельга забыць»? Канечне, не. Патрыятызм і мараль ёсць і ў шэрагу аўтараў, якіх наўрад ці калі стануць чытаць. Не яны і не шэраг забытых аўтараў прывялі сотні, тысячы юнакоў да беларускай мовы.

Справа ў тым, што чытаць Караткевіча цікава.

Усе жанры добрыя, акром сумных. І Караткевіч выдатна гэта разумеў, носячы ў кішэні польскі дэтэктыў і думаючы пра тое, як патрэбныя нашай літаратуры кнігі цікавыя.

Ці ўсе нашыя кнігі для падлеткаў можна назваць калі не захапляльнымі, то хоць бы цікавымі, хоць бы — чытэльнымі?..

І чаму б, прыняўшы да ўвагі выключную здольнасць Караткевіча да «беларусізацыі», не перавыдаць найбольш папулярныя яго творы? Так, працягваецца праца над новым зборам твораў, і выдадзеныя тамы цяпер ужо не знайсці ў кнігарнях. Але, думаецца, вы не станеце спрачацца, калі я скажу, што важкі том, палову якога складаюць навуковыя каментары, менш прыдатны да чытання падлеткамі, чым, скажам, «Дзікае паляванне…», выдадзенае ў мяккай вокладцы? Асабліва калі каштаваць яно будзе тысяч сорак-пяцьдзясят. Такое выданне імгненна змятуць з паліц. Выдаўцы гэта ведаюць. Чытачы гэта ведаюць. І?..

«Сёння паняцце «тэкст» саступіла месца паняццю «дыскурс». Тэкст, як і любы аб'ект, адразу ж, сінхронна ўспрымаецца ў цэлым арэоле дадатковай інфармацыі пра яго. І сучаснае дзіця, якое расце на перакрыжаванні вельмі інтэнсіўных інфармацыйных патокаў, успрымае любую фігурку… ва ўсё той шматмернасці, пра якую паклапаціліся дарослыя. Для фігурак-персанажаў мадэлюецца цэлы свет. Прычым на памежжы віртуальнага з самым што ні на ёсць рэальным: цацкамі, лагатыпамі на рэчах, інтэрактыўнымі гульнямі, поўнаметражнымі фільмамі, мультфільмамі, рэкламнымі ролікамі і г. д.», — піша Людміла Сінькова. Толькі ўявіце: побач з кнігамі прадаюцца ляльке — мышаня Пік-Пік, Маленькі Збраяносец, фігуркі ваяроў на дрыкгантах… Уявіце: дзеці чакаюць, калі выйдзе новая серыя «Паноў Кульбіцкага ды Заблоцкага», раюцца з сябрамі, як прайсці місію «Полацкія сутарэнні» ў гульні «Прыгоды Вырвіча». Калі ўсё гэта здаецца вам нявартым увагі, то вам так толькі здаецца. Той жа Караткевіч, напрыклад, цудоўна разумеў сілу кіно, калі казаў: «Раман у нашых беларускіх умовах прачытае ну дзесяць, ну дваццаць тысяч чалавек. А добры фільм пагледзяць мільёны. Разумееце, якая магчымасць уздзейнічаць на народ, абуджаць яго годнасць, яго памяць?»

Гэтую цытату, дарэчы, прыводзіць іншы ўдзельнік «круглага стала» — Настасся Карнацкая, студэнтка V курса філфака БДУ. Яна прапануе кампраміс: калі ўжо дзеці так улюбёныя ў новыя тэхналогіі, не прымушайце іх сядзець за папяровай кнігай — купіце кнігу электронную. Слушна, але гэта толькі «перамена месцаў складнікаў». Істотна іншае: «Многія бацькі скардзяцца, што дзеці нічога не чытаюць, але калі спытаць у бацькоў, што чытаюць яны самі, то высветліцца, што гэтаксама нічога! Чаго ж тады яны чакаюць ад сваіх дзяцей?..»

Яўген Мартыновіч, пісьменнік і настаўнік (чытай — чалавек па той бок барыкадаў), адзначае дзве важныя рэчы. Па-першае, складнікі паспяховай кнігі: герой (сапраўды герой, а не персанаж, які прамаўляе тэкст), займальны сюжэт, цікавы сусвет, яскравая мова, гумар. Яшчэ — ілюстрацыі: якасныя, густоўныя, адэкватныя дзіцячаму бачанню. Безумоўна, у кнізе галоўнае — сам твор, але наўрад ці нехта стане аспрэчваць значнасць «абгорткі». Але, як ні дзіўна, кожны месяц у свет выходзяць кнігі, малюнкі ў якіх палохаюць нават мяне, не тое што малых дзяцей. Гэтая праблема набывае катастрафічныя маштабы, калі ўлічыць, што кнігі такія трапляюць у рукі людзей, чый густ толькі пачынае фарміравацца. Па-другое, вялізнае значэнне сёння мае рэклама. Але рэкламавацца мусяць кнігі якасныя.

Аксана Бязлепкіна, кандыдат філалагічных навук, дацэнт, слушна звяртае ўвагу на тое, што моладзь не стала чытаць меней. Яна стала чытаць інačай, так: многія амаль бязвылазна сядзяць у сеціве, прагортваючы навіны, забаўляльны кантэнт і наведваючы шматлікія суполкі, пад завязку набітыя кніжнымі цытатамі. Так фарміруецца літаратурны густ цэлага пакалення. Пры гэтым на перыферыі застаецца беларуская літаратура, бо, натуральна, большасць захапляецца заходняй масавай літаратурай (Дж. Марцінам і Дж. Роўлінг, напрыклад). Але існуюць і «свае» літаратурныя суполкі, дзе публікуюцца вершы класікаў і маладых аўтараў, цытаты, урыўкі з прозы, літаратурныя навіны і пад.

Варта падкрэсліць і іншае выказванне спадарыні Аксаны: «Моладзь будзе чытаць, калі ёсць унутраная патрэба ці вонкавая матывацыя». Прыклад, які падае папулярная асоба, — найлепшае выйсце. І зноў жа — «захады па прапагандзе мастацкай літаратуры пасуюць любыя». Варыянтаў шмат: ад кароткіх ролікаў на тэлебачанні да адмысловых акцый у кнігарнях. Але што робіцца насамрэч? Калі вы апошні раз бачылі хоць бы постар з новай кнігай? У вагонах метро заўжды знаходзіцца месца для рэкламы зніжак і мёду, але што наконт кніг.

Кандыдат філалагічных навук Фёдар Драбеня, які да ўсяго выкладае ў гімназіі, слушна лічыць, што небяспека інтэрнэту ў адносінах да літаратуры моцна перабольшаная. Справа не ў прывязанасці новага пакалення да віртуальнага свету, а ў абыкавасці яго да мастацкай літаратуры. Вось з чаго трэба пачынаць. Калі юнак зразумее, наколькі важнае чытанне, ён сам возьме кнігу — папяровую ці электронную, гэта ўжо не мае значэння.

Эмацыянальнае «эсэ» Ірыны Купцэвіч, студэнткі філфака БДУ, варта даваць на азнаямленне школьнікам, якія не разумеюць, навошта ўвогуле чытаць. І зноў жа, спадарыня Ірына падкрэслівае ролю рэкламы — зробленай не высілкамі саміх аўтараў, а прафесіяналамі. У падобным рэчышчы выказваецца і магістрант філфака БДУ Іван Ясюк, якога таксама «паланіў» Караткевіч.

Прафесар, доктар філалагічных навук Тацціяна Шамякіна робіць песімістычны прагноз: «Толькі ў іншым грамадстве — больш аскетычным — магчыма вяртанне культу чытання». Думаецца, менавіта культ чытання ўжо не вернецца — свет змяніўся незваротна. Але месца кнізе ёсць заўжды.

Калі вы хочаце выказаць сваё меркаванне, падзяліцца досведам чытання з дзецьмі і пад., калі ласка, пішыце на адрас *lim_new@mail.ru* з пазнакай «круглы стол».

**Наста ГРЫШЧУК**

# Спакою душы не будзе

Першы запіс у дзённіках Яна Скрыгана, што выдадзены асобнай кнігай «Сэрцу горкая далячынь», датаваны 1 красавіка 1974 года: «Паспрабую яшчэ раз запісваць хоць самае штрыхавое. Можа, нарэшце і адвучу сябе ад прывычкі час ад часу знішчаць усё запісанае. Я ведаю прычыну гэтае прывычкі, бо вельмі ж памятаю той адзіны выпадак...» Нагадаем крыху з біяграфіі Яна Скрыгана, чалавека, след якога ў беларускай літаратуры настолькі істотны, знакавы, што шмат хто з наступнікаў звяраў і звярае па ім свае сцяжынкі і дарогі.




*Скрыган, Я. Сэрцу горкая далячынь / укл., прадм. Галіны Скрыган. — Мінск: Кнігазбор, 2013. — 351 с.*

Першыя публікацыі празаіка адносяцца да другой паловы 1920-х гг. (нарадзіўся Я. Скрыган у 1902 годзе) — апавяданне «Таіса», аповесць «Затока ў бурах». Яшчэ раней ён надрукаваў верш як паэтычны водгук на смерць У. І. Леніна. У 1930 і 1932 гадах Ян Скрыган выдаў зборнікі нарысаў, прысвечаныя калектывізацыі сельскай гаспадаркі, рэканструкцыі прамысловасці, — «Шугае сонца», «Недапісаны профіль».

А ў 1936 годзе малады літаратар ужо «загрымеў па этапах».

У Мінск вярнуўся толькі ў другой палове 1950-х гг. Каля дзесяці гадоў (у досыць сталым узросце) загадваў літаратурна-кантрольнай рэдакцыяй Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Друкаваўся няшмат, але аддаваў у друк радкі вывераныя, выпеставаныя, выпакутаваныя. Выступаў у газетах, часопісах з эсэ, артыкуламі па пытаннях культуры творчасці, мовы. Многія яго публікацыі («Чары слова», «Майстэрня», «Слова да маладых») можна разглядаць як запавет, тэстамент тым, хто збіраецца прысвяціць жыццё служэнню Слову.

Дзённікавыя запісы Я. Скрыгана — адлюстраванне думак, памкненняў празаіка на працягу больш як 17 гадоў. Апошні запіс датаваны 18 снежня 1991 года (памёр пісьменнік 18 верасня 1992 года): «...Серада. Не думаў, што такая простая рэч, як «Ліза», гэтак цяжка будзе пісацца. А думалася, што гэта ж вельмі сімпатычнае апавяданне павінна быць. І вось, калі ласка, надуманая фальшыўка. Не ведаю нават, ці льга яе аддаваць у друк. Няхай паляжыць трохі. Тады перапішу, мабыць, нешта яшчэ папраўлю. Пагляджу потым цвярозым вокам...»

У апошнія дзесяць-пятнаццаць гадоў у цікаўнага да беларускай літаратуры чытача была магчымасць пазнаёміцца з публікацыямі дзённікаў Івана Шамякіна, Максіма Танка, Вячаслава Адамчыка, Уладзіміра Дамашэвіча, некаторых іншых вядомых пісьменнікаў. Усе яны розныя па характары адлюстравання часу, у якім жылі і працавалі розныя паэты і празаікі. Іншым разам эмацыйныя ў дачыненні да сацыяльных, палітычных падзей, якія адбываліся перад вачыма майстроў слова. Часам запісы носяць вельмі інтымны характар у ацэнках як уласнай, так і творчасці калег. Дзённікавыя запісы Я. Скрыгана ў большасці выпадкаў лаканічныя, але і яны носяць дакладны адбітак часу, у якім жыў пісьменнік. Гэта відаць і па прамых ацэнках розных падзей, і па перақазе пэўных дэталяў, адцемленых Іванам Аляксеевічам у жыцці.

Але найбольш «прыцягальныя» ў дзённіках празаіка выказванні пра творчасць беларускіх і рускіх пісьменнікаў, ацэнкі іх твораў. Здараецца, што Я. Скрыган смела прызнаецца ў памылковасці ранейшых мастацкіх перакананняў: «Не, вядома, я вельмі несправядліва адносіўся да Чэхава. Вось чытаю «Даму з сабачкам» — якое дзіва! Проста, я ні разу не чытаў яго як след, не ўнікаючы ў яго, а ўсё бягом, бягом, як бягом прайшло маё ўсё жыццё: ніколі не хапала часу».

Ян Скрыган быў уважлівы да літаратурнай моладзі. У дзённіку мы сустракаем імёны Уладзіслава Рубанава, Уладзіміра Ягоўдзіка, Марыі Філіповіч, Хрысціны Лялько...

І яшчэ ў кнізе, да якой падышла б і такая назва — «Спакою душы не будзе» (на гэтай фразе з запісаў бацькі 1992 года акцэнтуе ўвагу дачка пісьменніка і укладальніца кнігі Галіна Скрыган), — вельмі шмат пра мову, родную беларускую і пра літаратурную мову ўвогуле. Да многіх разваг падштурхоўвае і такі запіс: «...калі цяжка рабіць нешта сваё — можна пачытаць і чужое. Чарговы нумар «Дружбы народов», восьмы. І ў ім А. Адамовіч «Необходимость Толстого».

І не магу сабе патлумачыць: чаму я не магу яго чытаць. Нічога яго я не мог дачытаць да канца. І ведаю, што разумны хлопец, і многа робіць добрага для літаратуры, а чытаць не магу <…> Мабыць, вінавата мова. Вось такая мова яшчэ ў Лужаніна. Лужанін сваю архаічную мову паліруе пад мадэрн. І штучнасць чутна адразу. У Адамовіча, апроч нечага непазнанага мною, шкодзіць тое, што беларуская мова ў яго здаецца не беларускаю, а руская — не рускаю.

А мова — ах, якая гэта вялікая тайна чалавечага мыслення!»

Так, шмат якія выказванні Яна Скрыгана прымушаюць задумацца, як і кніга «Сэрцу горкая далячынь» увогуле. Шкада, што яе наклад усяго толькі 200 экзэмпляраў. Але добра, што, дзякуючы небайкавай да бацькавай памяці дачцэ, дзённікі ўвогуле пабачылі свет. Жыццё Яна Скрыгана ў літаратуры працягваецца.

**Максім БАНДАРОЎСКІ**

*Аблічча*

# Сілы-змогі!

**Не адно пакаленне паэтаў удзячна Міколу Аўрамчыку за спрыяльныя часы яго «княжання» ў часопісе «Маладосць» (1953—1980). Кланяюся Міколу Якаўлевічу і я — за абарону ад розных прыдумак у былыя нелірычныя гады.**



Мікола Аўрамчык у студыі Беларускага тэлебачання. 1980 г.

Фота Сяргея Панізніка



Мікола Аўрамчык з Тарасам Хадкевічам і яго раднёй.

Пасля працы карэктарам у «Вячэрнім Мінску» вясной 1980 года я быў прыняты на пасаду рэдактара Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм рэспубліканскага тэлебачання. Захаваліся сцэнарыі перадач тэлепраграм «Спадчына», «Памяць», «У сям'і адзінай»... Помніцца, як у вялікай студыі пад навіслымі камерамі за сталамі паселі Аляксей Пысін, Іван Новікаў, Мікола Аўрамчык... У мяне быў люстэркавы фотаапарат, і вось праз аб'ектыў бачу засяроджанае аблічча Міколы Якаўлевіча — кавалера ордэна Айчыннай вайны II ступені, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы. Запіс тэлеперадачы быў прымеркаваны да 35-годдзя Перамогі. На пякучую тэму ў М. Аўрамчыка да таго часу былі выдадзены зборнікі «Пярэдні край», «Сустрэча былых канагонаў»... Паэма «Волхаўская споведзь» друкавалася ў зборніках «Універсітэцкі гарадок», «Дрэва дружбы».

Паміж нашымі прыязнымі сустрэчамі зрэдзь абменьваліся і паштоўкамі. Не як цыдулку, а як сардэчны пасыл захоўваю: *«Сяргей! Даражэнькі! Няўжо і табе ўжо стукнула 50 год? Ажно не верыцца. Як імкліва імчыць час! Ну што ж, браце, шчыра віншую цябе з тваім паўналецем і творчай сталасцю! У цябе ўсё яшчэ наперадзе.*

*Зычу новых творчых здабыткаў на ніве роднага слова!*

*Абдымаю цябе. Мікола Аўрамчык. 4.V.92.»*

Чытаў віншаванне апекуна і нібы падрастаў. Не быў ён абыякавым да падзеі, знаходзіў лагоднае слова падтрымкі, дзяліўся натхняльным скарбам любові да чалавека. Усё гэта выклікала павагу да затоенага ў сціпласць Міколы Якаўлевіча Аўрамчыка.

Заўсёды прываблівалі людзей літаратурныя вечары, прысвечаныя яго творчасці, асабліва ў «родным» для М. Аўрамчыка Купалавым музеі. Аднаго разу паспрабаваў перад людзьмі агучыць віншаванне з нагоды 85-годдзя Міколы Якаўлевіча, назваўшы вершанё яго ж словам — «Агледзіны»:

*Віншуем шчыра сына Якава.*
*Аўрамчыку гады прычэсваем*
*усімі званнямі пачэснымі.*
*З ім нельга думаць абыякава.*
*Таму стараемся падзякаваць*
*паэту словамі нясчэзлымі.*
*Зычэнні любасцю налецены:*
*— Вам змогі на гадоў Агледзіны!*

Сілы-змогі Міколу Аўрамчыку і на новыя Агледзіны яго наўрымслівых гадоў!

Днямі, згадваючы нашы сустрэчы, я спытаў у Міколы Якаўлевіча, ці трапляўся яму на вочы здымак, які я бачыў у Шайцераве, на радзіме Тараса Хадкевіча ў Верхнядзвінскім раёне. Ён, маладжавы, у вясёлым настроі, сфатаграфаваны каля Т. Хадкевіча і яго радні. Сёлетні юбіляр адказаў, што ён толькі адзін раз наведаў старажытную Дрысу (пераназваную пазней у Верхнядзвінск), дзе гасцяваў у свайго сябра Гайшуна — галоўнага ўрача раённай лякарні.

Можа, уніклівыя чытачы дапамогуць узгадаваць з багатага жыцця Міколы Якаўлевіча яшчэ адзін праменьчык памяці?..

**Сяргей ПАНІЗНІК**

# Манументальна







*Мінскі мікрараён «Усход». Пано А. Кішчанкі.*

Калі пачынаецца гаворка пра манументальнае мастацтва, у памяці звычайна ўсплываюць вобразы старажытных цэркваў і касцёлаў, замкаў і палацаў. Але аб'екты манументальнага мастацтва ствараліся не толькі ў мінулыя эпохі. Яны будуюцца і цяпер. Кожны новы грамадскі ці культавы будынак і нават гандлёвы цэнтр ці жылы дом — гэта помнік архітэктуры, хоць часта ўсе пра гэта забываюцца (прычым нават самі архітэктары).

Але нямала тых, хто вывучае сучасную архітэктуру і манументальнае мастацтва. Як прыклад — даследаванне Дар'і Іваноўскай «Манументальны жывапіс беларускіх мастакоў другой паловы XX — пачатку XXI стагоддзя» (Мінск: Беларусь, 2014 г.). У кнізе асветлены асноўныя кірункі развіцця і тэхнікі жывапісу, у якіх працавалі (і працуюць) найбольш вядомыя аўтары.

Выданне вельмі добра ілюстравана. Фактычна гэта якасны мастацкі альбом, хаця апісваюцца і прэзентуюцца ў ім не надта звыклыя аб'екты. На старонках кнігі можна знайсці шматлікія збудаванні, якія мы бачым практычна штодня: станцыі мінскага метрапалітэна, Нацыянальную бібліятэку Беларусі, касцёлы, цэрквы і многае іншае. На першы погляд звыклыя інтэр'еры — сапраўдныя творы мастацтва, нярэдка адметныя і вышэйшых.

Манаграфія Дар'і Іваноўскай ужо на момант выдання стала своеасаблівай гістарыяграфічнай крыніцай, бо некаторыя згаданыя творы манументальнага мастацтва перасталі ўжо існаваць. Напрыклад, стары будынак Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны на Кастрычніцкай плошчы сталіцы.

Аўтар кнігі акрэслівае пэўныя тэндэнцыі ў развіцці манументальнага мастацтва Беларусі другой паловы XX — пачатку XXI стагоддзяў, вызначае ролю дзяржаўнай замовы ў савецкія часы, адзначае рост колькасці твораў у перыяд незалежнасці. Разам з тым няцяжка заўважыць, што пры ўсёй разнастайнасці беларускае манументальнае мастацтва дагэтуль так і не знайшло свайго асабістага, нацыянальнага, твару.



*Гродна, вуліца Савецкая. Пано А. Сілівановіча.*

Але будзем спадзявацца, што гэта справа найбліжэйшай будучыні, у тым ліку мастакоў-манументалістаў і, канечне, мастацтвазнаўцаў. Застаецца толькі падзякаваць спадарыні Дар'і Іваноўскай за яе, без перабольшвання, манументальную працу.

**Мікалай ПЛАВІНСКІ**

# Крок да творчасці

Падвядзенне вынікаў конкурсу творчых работ школьнікаў з розных куткоў Беларусі пад назвай «Наш музей адзначае юбілей» адбылося ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. 4 снежня 2014 года ўнікальнай на Беларусі мемарыяльнай установе споўнілася 55 гадоў.

Конкурс праходзіў толькі адзін месяц — з лістапада па снежань, а на адрас музея прыйшлі дзясяткі работ малодых творцаў. Ацэньваліся па трох тэмах — літаратурныя працы, фотаздымкі, выяўленчае мастацтва, у тым ліку малюнкі, паштоўкі, пано, калажы, вырабы hand-made.

Дзеці дасылалі свае віншаванні, дзяліліся бачаннем развіцця музея, расказвалі пра ўражанні ад экспазіцый. Больш за тое, стварылі прысвячэнні Якубу Коласу і ілюстрацыі да ягоных твораў! Казкі пра музейнае жыццё, разважанні на тэму «Калі б я быў дырэктарам музея...», экспанаты пад незвычайным ракурсам, падарожжа па Коласавых мясцінах у Мінску — усё гэта паспяхова ўвасаблялася ў свядомасці стваральнікаў прыгожага. Усе працы ўдзельнікаў творчага «спаборніцтва» захоўваюцца ў музеі, і кожны наведвальнік можа з імі пазнаёміцца.

Сярод членаў журы конкурсу — знакамітыя беларускія мастакі, празаікі, паэты, фатографы і журналісты.

Пераможцам конкурсу ўручаны каштоўныя прызы, у тым ліку вялізны грацыёзны гадзіннік з выявай музея і памятныя дыпломы. Ніхто не застаўся без увагі — усе ўдзельнікі атрымалі сувеніры і ганаровыя падзякі.

Галоўныя мэты конкурсу — выхаванне любові і цікавасці да беларускай літаратуры, папулярызацыя творчасці Якуба Коласа і, канечне, выяўленне, падтрымка і заахвочванне таленавітых дзяцей.

«Спадзяюся, што светлыя душэўныя павевы і любоў да творчасці Якуба Коласа, якія адчуваюцца ў творах юных талентаў, застануцца ў іх назаўсёды», — адзначыла дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская.

«Конкурс згуртаваў вакол сябе моладзь, навучэнцаў розных узростаў, якія здолелі глыбей акунуцца ў гісторыю роднай літаратуры, лёс і творчасць яе найярчэйшага прадстаўніка. Узнагарода, дыплом ці прыз, атрыманыя сёння ў музеі, — гэта добры старт для далейшых дасягненняў», — выказала меркаванне прадстаўнік камітэта па адукацыі Мінгарвыканкама Галіна Балашова.

Звяртаючыся да канкурсантаў, малодшы сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч падоўжыў яе думку і адзначыў, што «самае галоўнае для кожнага маладога чалавека — здабываць веды, каб мозг быў натрэніраваны, насычаны разуменнем свету і яго падзей». Па словах Міхася Міцкевіча, «вельмі важна шмат чытаць, прычым не толькі з інтэрнэту, а з добрых кніг, бо ў літаратуры апісаны усе сітуацыі, якія могуць трапіцца ў жыцці — і гэта вельмі карысна».

**Марыя ВОЙЦІК**

# Год выдання: 2014

**Якім быў мінулы год для кнігавыдавецкай сістэмы Беларусі? Ці павялічылася агульная колькасць выдадзеных кніг? Ці адбыліся змены ва ўспрыманні і сістэме ўліку электронных выданняў? На гэтыя і іншыя пытанні адказвае дырэктар Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі Алена Іванова.**

**— Звычайна ў сярэдзіне студзеня Нацыянальная кніжная палата Беларусі падводзіць вынікі працы айчыннай сістэмы кнігавыдання за папярэдні год. Якім быў 2014-ы ў колькасных паказчыках?**

— Калі пытанне пастаўленае пра айчыннае кнігавыданне, то давайце ўдакладнім. Не так даўно ў нашай краіне быў упершыню прыняты Закон «Аб выдавецкай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь», які тлумачыць паняцце «нацыянальнае кнігавыданне» як сукупнасць друкаваных выданняў нашай краіны. Гэта не толькі кнігі, але і іншыя выданні, напрыклад, карты, паштоўкі, рэпрадукцыі, буклеты. Таму, перш чым перайсці да кніг, скіруем нашу размову крыху ў іншае рэчышча.

Цягам апошніх дзесяцігоддзяў у Кніжную палату штогод паступае каля 60 — 70 тысяч адзінак усёй выдавецкай прадукцыі краіны, уключаючы кожны выпуск газеты і часопіса, кожны буклет, паштоўку, лістоўку. Усе яны праходзяць дзяржаўную бібліяграфічную рэгістрацыю ў інфармацыйнай сістэме Кніжнай палаты, а затым накіроўваюцца на вечнае захаванне ў дзяржаўнае фондасховішча. Бібліяграфічная інфармацыя пра гэтыя выданні рэгулярна публікуецца на старонках «Летапісу друку Беларусі».

Так, у 2014 годзе Кніжнай палатай зарэгістравана 66 517 абавязковых экзэмпляраў друкаваных выданняў, якія выпушчаныя на тэрыторыі Беларусі ці за яе межамі па заказах нашых выдаўцоў. Больш як палова, а дакладней 54 працэнты гэтай плыні, складаюць, канечне ж, газеты і часопісы. Шмат выпускаецца ведамасных выданняў, спіс якіх цяпер вызначаецца ў адпаведнасці з тым жа законам «Аб выдавецкай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь», гэта прыкладна чвэрць усіх паступленняў.

А вось кнігі складаюць каля 20 працэнтаў ад агульнага аб'ёму друкаваных выданняў, якія штогод паступаюць у Кніжную палату. У 2014 годзе — 11 613 выданняў. Калі лічыць па колькасці назваў, то гэтая лічба на 1,5 працэнта перавышае паказчык 2013 года. Ды і па тыражы сітуацыя добрая. Сукупны тыраж мінулага года — 31,2 мільёна асобнікаў, што толькі на 0,7 працэнта ніжэй тыражу 2013-га. Сярод гэтых выданняў, апрача тэкставых, — кнігі шрыфтам Брайля, атласы, нотныя выданні і альбомы па выяўленчым мастацтве. Практычна палова выпуску кніг — малатыражныя выданні, што выпускаюцца накладам да 500 асобнікаў.

На ўзроўні 2013 года засталіся паказчыкі сярэдняга тыражу кніг — 2,7 тысячы экзэмпляраў і выпуску кніг на аднаго жыхара — 3,2 кнігі.

**— Ці пабольшала ў кніжным жыцці краіны актыўных выдаўцоў? Якія айчынныя выдавецтвы сталі летась лідарамі па колькасці назваў і тыражы выдадзеных кніг?**

— Усяго ў 2014 годзе 382 выдаўцы выпусцілі ў свет хаця б адну кнігу, і гэты паказчык на 4 працэнты большы, чым колькасць актыўных выдаўцоў 2013-га. Дарэчы, толькі па адной кнізе летась выпусцілі 72 выдаўцы, гэта прыкладна 18 працэнтаў ад агульнай колькасці.

Па-ранейшаму лідар — выдавецтва «Харвест». На яго рахунку каля 10 працэнтаў у агульнай колькасці кніг па назвах і 19 працэнтаў — па тыражы. Аднак звернем увагу, што за перыяд з 2011 па 2014 год доля «Харвеста» ў агульным выпуску кніг скарацілася і па назвах, і па тыражы прыкладна ўдвая. Таксама ў ліку лідараў мазырскае выдавецтва «Белы вецер» і мінскае «Аверсэв». Цягам многіх гадоў утрымліваюць пазіцыі ў дзясятцы лідараў выдавецтвы «Папуры» і «Народная асвета».

Працягваецца супрацоўніцтва беларускіх выдаўцоў з замежнымі партнёрамі. Каля 9 працэнтаў назваў і 17 працэнтаў тыражу кніг — сумесныя выданні. На замежнай паліграфічнай базе нашы выдаўцы друкуюць няшмат айчынных кніг — толькі 1 працэнт.

**— Сёння павышаецца цікавасць да беларускай мовы і культуры. Ці адбіваецца гэтая тэндэнцыя на сістэме кнігавыдання? Колькі выдадзена ў краіне цягам 2014 года беларускамоўных кніг?**

— Гэта досыць стабільны паказчык. Больш за ўсё кніг у Беларусі выдаецца на рускай мове — каля 85 працэнтаў. Беларускамоўныя кнігі штогод займаюць нішу ў 10 — 12 працэнтаў. Усяго ж летась было выпушчана 1 106 назваў кніг на беларускай мове сукупным тыражом 3,6 мільёна асобнікаў.

Цікава, што летась выдадзена 799 кніг з мастацкімі творамі беларускіх аўтараў, але сярод іх 500 выданняў на рускай мове, і толькі 294 — па-беларуску. У перакладзе з рускай, украінскай, славацкай, англійскай, латышскай, шведскай, кітайскай і іншых моў на беларускую пабачыла свет 28 выданняў мастацкай літаратуры. Актыўна выдаюць кнігі на беларускай мове такія выдавецтвы, як «Мастацкая літаратура», Выдавецкі дом «Звязда», Выдавецкі дом «Беларуская навука», «Аверсэв», Выдавецкі дом «Белы вецер».



Выпускаюцца ў нашай краіне таксама і кнігі на замежных мовах: англійскай, нямецкай, французскай, польскай, іспанскай і іншых. Пабачыла свет 936 такіх выданняў, што на 10 працэнтаў больш, чым у 2013 годзе.

**— Якія тэндэнцыі, мяркуючы па лічбах, заўважаюцца ў кнігавыданні краіны?**

— Калі казаць пра мастацкую літаратуру, то колькасць назваў у 2014 годзе крыху знізілася ў параўнанні з паказчыкамі 2013 года: 1733 назвы супраць 1827. Пры гэтым тэндэнцыя штогадовага зніжэння ў сярэднім на 4 — 4,5 працэнта прасочваецца ўжо цягам пяці гадоў. То бок у параўнанні з 2010 годам выпуск мастацкай літаратуры скараціўся на 22 працэнты. У цэлым доля мастацкай літаратуры ў агульным выпуску кніжнай прадукцыі складае 15 працэнтаў. Палова з іх — дзіцячыя. Многа гэта ці мала, напэўна, ацаніць складана. Змяншэнне паказчыкаў выпуску мае станоўчыя і адмоўныя бакі. Напрыклад, калі менш літаратурнага графаманства, — гэта, несумненна, станоўчы момант. А вось электронныя пірацкія копіі ў свабодным доступе, канечне ж, негатыўна ўплываюць на кніжны рынак. Адчувальна і расійскае ўздзеянне. Толькі за год у Расіі выдаецца кніг стольκі, колькі ў Беларусі — за 10 гадоў, і, па ацэнках спецыялістаў, да 90 працэнтаў асартыменту, што прапануецца нашаму пакупніку, — расійскія выданні.

Цікавы паказчык — выпуск кніг у вокладцы і пераплёце. Тэндэнцыя зніжэння выпуску ў пераплёце назіраецца ўжо некалькі гадоў. Так, у 2001 годзе выпускалася 35 працэнтаў такіх кніг, затым назіралася паступовае зніжэнне паказчыка ў 2014 годзе да 20 працэнтаў. Зразумела, што цвёрды пераплёт больш трывалы і можа служыць даўжэй, а вокладка больш танная. Але ці не сведчыць гэтая тэндэнцыя пра тое, што сучаснае грамадства паступова губляе традыцыі доўгачасовага захоўвання кніг у хатняй або нават публічнай бібліятэцы? А можа, кніг у цвёрдым пераплёце становіцца ўсё менш, бо для чытання ў метро, аўтобусе ці проста на канапе яны грувасткія і нязручныя, нягледзячы на прэзентабельны знешні выгляд?

Не будзем забывацца і пра сектар так званай шэрай літаратуры, ці ведамасных выданняў, якія, як правіла, не распаўсюджваюцца праз кнігагандлёвыя сеткі. Іх доля складае чвэрць выдавецкай прадукцыі краіны і на 40 працэнтаў перавышае кніжны сегмент. Вучэбныя праграмы, планы, каталогі абсталявання і тавараў, рэкламныя буклеты, прэйскуранты, лістоўкі, праграмы мерапрыемстваў — вось далёка не поўны пералік. Летась у Кніжную палату іх паступіла 16 197. Па матэрыяльнай канструкцыі гэта або выданні кніжнага тыпу, або ліставыя, а па характарыстыках часта аднадзённыя матэрыялы. Таму надзвычай дыскусійнае ў нашай прафесійнай сферы пытанне пра неабходнасць іх бібліяграфічнай апрацоўкі і дэпазітарнага захоўвання пры ўмове пастаяннага недахопу плошчы ў сховішчах. Пакуль жа, у адпаведнасці з традыцыямі, што склаліся гістарычна, ведамасныя выданні ўключаныя ў сістэму абавязковага экзэмпляра.

**— Сёння ўсё часцей выдаўцы і кнігагандляры абмяркоўваюць актуальныя пытанні працы над электроннымі кнігамі. Ці адбыліся цягам 2014 года нейкія значныя падзеі, звязаныя з успрыманнем і фіксацыяй менавіта электронных выданняў?**

— Страсці наконт краху друкаванага кнігавыдання паступова сціхаюць. Ад песімістычных прагнозаў пра смерць кнігі адмаўляюцца нават футуролагі. Тым не менш ніводзін кнігавыдавец не можа не ўлічваць імклівага росту колькасці электронных рэсурсаў рознага кшталту, якія прадстаўляюць альтэрнатыву друкаванай кнізе. Аднак ніхто не валодае дакладнай інфармацыяй пра колькасць электронных рэсурсаў у нашай краіне. А без гэтага, пагадзіцеся, складана нешта аналізаваць, прагназаваць і рэгуляваць.

Каб зрабіць гэтую галіну выдавецкай дзейнасці больш празрыстай (пра поўны ўлік гаворка не ідзе: гэта проста немагчыма і, па вялікім рахунку, непатрэбна), спачатку неабходна выпрацаваць агульную канцэпцыю электроннага кнігавыдання (элементарна: што варта разумець пад электроннай кнігай?), а затым і прававыя механізмы.

А вось асобныя сегменты маніторынгу электронных рэсурсаў усё ж існуюць. І звесткі пра гэта можна атрымаць, напрыклад, з Дзяржаўнага рэгістра інфармацыйных рэсурсаў Беларусі (тут рэгіструюцца базы дадзеных, вэб-сайты, электронныя выданні), а таксама з дадзеных Кніжнай палаты, якая на аснове ведамаснай статыстычнай справаздачнасці штогод вядзе ўлік іх выпуску. Па папярэдніх звестках, беларускімі выдаўцамі летась выпушчана 515 электронных выданняў. Галоўным чынам гэта сеткавыя вучэбныя і метадычныя дапаможнікі (курсы лекцый, практыкумы, манаграфіі, мультымедыйныя прэзентацыі да заняткаў). Як правіла, яны маюць друкаваныя аналагі і распаўсюджваюцца праз элетроннабібліятэчныя сістэмы ВНУ, але да некаторых ёсць доступ праз інтэрнэт. Лакальныя электронныя выданні на кампакт-дысках у асноўным прадстаўленыя праектамі даведачна-інфармацыйных выданняў: Белфакт Медыя, Бізнес-Інформа, ПН-Комапас і іншых.

Доля электронных выданняў у прадукцыі нашых выдаўцоў складае ўсяго 4,2 працэнта. Таму, думаецца, граць пахавальны марш друкаванай кнізе рана, да таго ж чытаць кнігі з тэлефона ці экрана нязручна і шкодна. Ёсць кнігі, якія проста прыемна паставіць на паліцу. Ёсць групы чытачоў, якія элементарна ніколі не змогуць навучыцца карыстацца чыталкамі, а камусьці проста дарагі шоргат кніжных старонак і пах паперы.

**— Напэўна, вам ужо вядомыя і адпаведныя лічбы з Расіі і Украіны. Як у параўнанні з нашымі краінамі-суседкамі выглядае кнігавыданне Беларусі?**

— Звычайна такія звесткі з'яўляюцца бліжэй да лютага, але некаторыя папярэднія лічбы ўжо агучаныя. Так, ва Украіне па папярэдніх дадзеных за 2014 год у параўнанні з паказчыкамі 2013-га назіраецца спад: па назвах — на 19 працэнтаў і па тыражы — на 22 працэнты. Але трэба ўлічваць, што статыстыка складзеная без уліку дадзеных па Крыму з чэрвеня 2014 года.

Па выніках першага паўгоддзя 2014 года ў Расіі ў параўнанні з аналагічным перыядам 2013-га выпушчана на 1,5 працэнта назваў кніг менш. Што тычыцца тыражоў, то таксама назіраецца зніжэнне на 3,3 працэнта.

Расійскія калегі адносна тыражоў адзначаюць дзве важныя тэндэнцыі. Першая — практычна ўсе паказчыкі 2014 года сведчаць, што ў агульным тыражы павялічваюцца долі тых кніжных выданняў, якія каштуюць менш і для выдаўца, і для пакупніка: брашуры, кнігі ў вокладцы, перавыданні, серыйныя выданні. А вось новыя перакладныя кнігі зніжаюць сваю ўдзельную вагу. Другі фактар у тыражным сегменце звязаны з нейкай юрыдычнай «лакунай» адносна рэалій сучасных выдавецкіх тэхналогій, у прыватнасці «друку па патрабаванні» (printing on demand — POD). Што пры выкарыстанні тэхналогіі POD лічыць выданнем, а што раздрукоўкай ці дадрукоўкай? Што лічыць тыражом, а што копіямі? Чым з'яўляецца ў дадзеным выпадку тыраж і як ён павінен улічвацца згодна з заканадаўствам пра абавязковы экзэмпляр, а затым пры статыстычным уліку друкаваных выданняў? Гэтыя пытанні таксама актуальныя для айчыннага кнігавыдання і патрабуюць вывучэння і прапрацоўкі.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# З Брылёўскага поля




*Хутка ў выдавецтве «Кнігазбор» пабачыць свет новая кніга кандыдата гістарычных навук Мікалая Плавінскага «Скарбы, курганы, замкі і іх даследчыкі». Выданне складаюць навукова-папулярныя нарысы, прысвечаныя найбольш цікавым археалагічным даследаванням і знаходкам апошніх гадоў. Адметна, што аповед вядзецца з першых вуснаў — аўтар кнігі сам быў удзельнікам многіх раскопак і адкрывальнікам раней не вядомых фактаў.*

*Прапануем чытачам «Кніжнага свету» пазнаёміцца з фрагментам новага выдання. Гэта нарыс пра скарб эпохі вікінгаў з Брылёўскага поля.*

У газетных артыкулах і навукова-папулярных выданнях Беларусь часта называюць краінай скарбаў. Сапраўды, наша зямля надзвычай багатая на знаходкі. Шматлікія войны на працягу многіх стагоддзяў прайшлі праз тэрыторыю нашай краіны. Кожны знойдзены сёння скарб — сведчанне трагічнага лёсу яго колішняга ўладальніка, бо тое, што ён выяўлены ў наш час, азначае: гаспадар калісьці не здолеў вярнуцца за схаванымі каштоўнасцямі. Разам з тым кожны скарб — унікальная крыніца ведаў пра мінуўшчыну. Прычым каштоўнасць яго вымяраецца не коштам зарытага срэбра ці золата, а той незвычайнай гісторыяй, якую могуць распавесці старажытныя манеты, упрыгажэнні і дэталёвы аналіз абставін іх выяўлення.

— Скарб эпохі вікінгаў з Брылёўскага поля — адзін з самых незвычайных знойдзеных на Беларусі.

Брылёўскае поле — мясцовасць каля вёскі Брылі Веселоўскага сельсавета Барысаўскага раёна Мінскай вобласці. Тут у 1812 годзе адбылася бітва паміж французскімі войскамі, якія адступалі з Масквы, і расійскімі, якія імкнуліся перашкодзіць праціўніку пераправіцца праз раку Бярэзіну. У баях з абодвух бакоў загінула каля 30 тысяч чалавек, па гэтай прычыне поле стала месцам «паломніцтва» сяброў розных ваенна-гістарычных клубаў і аматараў ваеннай гісторыі.

Увесну 2000 года адзін з іх, шукаючы дэталі вайсковага рыштунку і ўзбраення эпохі напалеонаўскіх войнаў, і выявіў у пойме ракі за 800 м ад вёскі Брылі моцна каразіраваныя фрагменты мяча. Мяркуючы, што да яго ў рукі патрапілі дрэнна захаваныя матэрыялы 1812 года, аматар мінуўшчыны першапачаткова не надаў ім асаблівай увагі. Аднак пазней, калі высветлілася, што знаходка належыць зусім да іншай эпохі, вырашыў вярнуцца на Бярэзіну і прадоўжыць пошук. У выніку ўдалося выявіць астатнія часткі мяча, фрагмент срэбнай шыйнай грыўні, 8 гірак для ўзважвання срэбра і 256 арабскіх манет-дзірхамаў. Усе яны былі рассыпаныя на мацерыковым рачным пяску.

Інфармацыя пра знаходку паступіла ў Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, і ўжо летам і ўвосень таго ж года археалагічнай экспедыцыяй пад кіраўніцтвам Алега Іова пры ўдзеле выдатнага беларускага нумізмата Валянціна Рабцэвіча на месцы знаходкі былі праведзены раскопкі. Выявілася, што ў гэтай частцы поймы Бярэзіны старажытных паселішчаў няма. Таксама ўдалося вызначыць, што Брылёўскі манетна-рэчавы комплекс складаецца з 290 дзірхамаў і іх фрагментаў, 10 гірак-разнавагаў, фрагмента шыйнай грыўні і мяча, які захаваўся ў 10 фрагментах. У сакавіку 2003 года ён быў перададзены на пастаяннае захаванне ў Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь (у той час — Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі).

На падставе аналізу манетнай часткі Брылёўскага скарбу Валянцінам Рабцэвічам было вызначана: старэйшая манета выраблена ў 125 годзе хіджры (арабскі каляндар), што адпавядае 742/743 году паводле нашага летазлічэння, а малодшая — у 277 годзе хіджры — 890/891 годзе. Гэта дазваляе датаваць ухаванне скарбу часам паміж 890 і 892 гадамі.

Брылёўскі скарб можна ўмоўна падзяліць на дзве часткі — манетную і рэчавую. Манетная частка складаецца з 214 цэлых і 76 фрагментаваных арабскіх манет-дзірхамаў, якія былі адчаканеныя ў 26 гарадах Паўночнай Афрыкі, Блізкага Усходу, Ірана, Афганістана, Закаўказзя і Цэнтральнай (Сярэдняй) Азіі. Гэта дазваляе ўявіць шырыню і размах гандлёвых кантактаў, у якіх прымалі ўдзел нашыя продкі ў канцы дзявятага стагоддзя. Рэчавая ж частка Брылёўскага скарбу складаецца з мяча, фрагмента шыйнай грыўні і дзесяці гірак-разнавагаў.

Самая цікавая знаходка — меч. Нягледзячы на вельмі кепскую захаванасць наяўных фрагментаў, можна меркаваць, што яго рукаяць была пакрытая інкрустацыяй — размешчанымі ў шахматным парадку срэбнымі і меднымі насечкамі. У эпоху вікінгаў мячы былі рэдкай і надзвычай каштоўнай зброяй. Большасць з іх выраблялася ў франкскіх майстэрнях у рэгіёне Сярэдняга Рэйна (сучасная тэрыторыя Германіі). Адсюль бліскучыя смертаносныя клінкі разыходзіліся па ўсёй тэрыторыі Еўропы. Звычайна на клінках такіх мячоў мелася кляймо ULFBERHT, аднак з-за кепскага стану захаванасці выявіць на брылёўскай знаходцы сляды кляйма немагчыма. Затое можна ўпэўнена сцвярджаць: яшчэ ў старажытнасці клінок быў пагнуты ў двух месцах. Гэта азначае, што перад тым, як схаваць меч, яго наўмысна сапсавалі, напэўна, у рытуальных мэтах.

Фрагмент шыйнай грыўні ўяўляе скручаны ў два абароты кавалак срэбнага дроту. На адным канцы добра бачны след ад адсякання кавалку грыўні.



Вікінгі сплаўляюцца па адной з усходнееўрапейскіх рэк (рэканструкцыя аўтара).



Вікінг X стагоддзя з рычажнымі шалямі (рэканструкцыя аўтара).

У эпоху вікінгаў у Паўночнай і Усходняй Еўропе срэбныя манеты мелі каштоўнасць не як грашовыя адзінкі, а як вагавае срэбра. Падчас гандлёвых аперацый, каб дасягнуць неабходнай для аплаты вагі, манеты разразаліся на кавалкі. Заможныя людзі маглі пераплаўляць лішкі манет у ювелірныя ўпрыгажэнні — бранзалеты ці грыўні, якія ў выпадку неабходнасці зноў лёгка пераўтвараліся ў сродкі аплаты — ад іх адрубалі кавалкі пэўнай вагі (так сталася з брылёўскай шыйнай грыўняй).

Для ўзважвання срэбра выкарыстоўваліся складныя бронзавыя рычажныя вагі ў выглядзе каромысла, замацаванага ў так званым «відэльцы», і двух кубачкаў. Кубачкі часта маглі быць арнаментаванымі. Мацаваліся да каромысла вяровачкамі ці ланцужкамі. Вагі захоўваліся ў бронзавых дзвюхстворкавых скрыначках. Створкі змацоўваліся «завескамі» і пакрываліся геаметрычным арнаментам.

Срэбра ўзважвалі пры дапамозе стандартызаваных тыпаў гірак-разнавагаў. Найбольш распаўсюджанымі былі бочкападобныя і чатырнаццаціграннымі гіркі. Рабіліся яны з жалеза і абцягваліся меддзю. Новы тып вагаў і гіркі-разнавагі трапілі ва Усходнюю і Паўночную Еўропу з ісламскага свету, пра што сведчаць знаходкі гірак з арабскімі надпісамі ці іх імітацыямі. У склад Брылёўскага скарбу ўваходзіць дзесяць гірак: шэсць бочкападобнай формы, чатыры — чатырнаццаціграннай.

Чаму ж манеты, гіркі, фрагмент шыйнай грыўні і меч апынуліся ў пойме Бярэзіны? Каб даць адказ на гэтае пытанне, варта сказаць колькі слоў пра час, калі адбылося ўхаванне брылёўскага скарбу.



Складныя рычажныя шалі і скрыначка для іх захоўвання з могільніка Павірвітэ ў Літве (паводле Ілоны Вашкявічутэ).

Канец першага тысячагоддзя нашай эры быў надзвычай важным перыядам у гісторыі насельніцтва Усходняй Еўропы, у тым ліку і зямель сучаснай Беларусі. Менавіта на гэты перыяд прыпадае фарміраванне ва ўсходнеславянскіх плямёнаў дзяржаўных структур і інстытутаў улады, з'яўленне гарадоў. Вялікае значэнне ў гэтых працэсах меў фактар актывізацыі міжнароднага гандлю, найважнейшую ролю ў якім адыгралі выхадцы са Скандынавіі.

Недзе ў восьмым стагоддзі ў Скандынавіі склаліся перадумовы для актыўнай знешняй экспансіі, што выявілася ў шматлікіх ваенных паходах на захад і ўсход, а таксама ў сельскай каланізацыі астравоў Паўночнай Атлантыкі, Усходняй Англіі і іншых рэгіёнаў. Перыяд скандынаўскай экспансіі ў Паўночнай і Усходняй Еўропе, які доўжыўся з восьмага да пачатку адзінаццатага стагоддзя, называецца эпохай вікінгаў.

Ва Усходняй Еўропе першыя вікінгі, якіх тут пазней сталі называць варагамі, з'яўляюцца прыкладна ў сярэдзіне восьмага стагоддзя. Яны рухаліся па ўсходнееўрапейскіх рэках на поўдзень і ўсход у пошуках ваеннай здабычы, выгадных гандлёвых аперацый, а часам і месца для пасялення. Адна з асноўных прычын прасоўвання вікінгаў на ўсход — імкненне набыць багацце, галоўнай матэрыяльнай каштоўнасцю якога было арабскае срэбра. У абмен на срэбныя манеты вікінгі вывозілі з Паўночнай і Усходняй Еўропы футра і рабоў.

На тэрыторыі Усходняй Еўропы сфарміравалася некалькі гандлёвых шляхоў, асноўныя з якіх — Вялікі Волжскі шлях і шлях «з варагаў у грэкі». Апошні праходзіў у тым ліку і па тэрыторыі Беларусі. Летапісец так апісвае гэты шлях: «и бѣ путь из Варягъ въ Грѣкы, и изъ Грѣкъ по Днепру, и вѣрхъ Днѣпра волокъ до Ловоти, и по Ловоти внити в Илмерь озеро великое, из негоже озера потечеть Волховъ и втечеть въ озеро великое Нево, и того озера внидет устье в море Варяское».

Акрамя шляху «з варагаў у грэкі» праз беларускія землі таксама праходзіла яго адгалінаванне па Заходняй Дзвіне, — Нёманска-Дняпроўскі і Прыпяцка-Бугскі шляхі. Асноўныя прыкметы функцыянавання гандлёвых шляхоў — знаходкі скарбаў і асобных манет. Брылёўскі скарб — гэта адно з найбольш ранніх сведчанняў функцыянавання гандлёвага шляху па Бярэзіне, што злучаў Верхняе Падняпроўе з Верхнім Падзвіннем ужо напрыканцы дзявятага стагоддзя.

А цяпер час адказаць на пытанне: як срэбра, меч і гіркі апынуліся на дне ракі? З'яўленне скарбу звычайна вынік ухавання пэўных каштоўнасцей у выпадку небяспекі (ваенных дзеянняў, рабаўнічага нападу) ці прыхаванне «на чорны дзень» зберажэнняў. Але ў эпоху вікінгаў закопваць у зямлю альбо тапіць у моры, рацэ ці балоце скарбы маглі ў сакральных мэтах — каб удача, увасобленая ў гэтых каштоўнасцях, спадарожнічала іх уладальніку як у жыцці, так і на тым свеце. Калі меч сагнуты мэтанакіравана не менш як у двух месцах — значыць, над ім ажыццяўляліся пэўныя рытуальныя дзеянні. Верагодна, перад ухаваннем скарбу над зброяй быў праведзены рытуал па яе псаванні, іншымі словамі, «забойстве» (звычай псавання зброі быў шырока распаўсюджаны ў розных раннесярэднявечных еўрапейскіх народаў, у першую чаргу ў пахавальным абрадзе). Выходзячы з гэтага, найбольш верагоднай падаецца інтэрпрэтацыя Брылёўскага скарбу як рытуальнага паднашэння багам з мэтай забяспечыць поспех будучых ваенных і гандлёвых мерапрыемстваў уладальніка гэтага багацця.

# Принцесса под соусом, или Как обхитрить чёрта?

Книга «Великие сказочники», вышедшая в «Издательстве «АСТ» при участии ООО «Харвест», вызывает фантастический трепет, смешанный с неуёмным любопытством и желанием прочесть её залпом. Вильгельм и Якоб Гримм, Шарль Перро, Ганс Христиан Андерсен и Вильгельм Гауф — великолепная четвёрка мастеров собралась под обложкой одного издания, очень большого и изящно оформленного. Удивительно, что сказки, созданные много лет назад, не утратили своего волшебного обаяния и по-прежнему привлекают детей и взрослых во всём мире.




Стильные иллюстрации, напоминающие чёрно-белые старинные гравюры, лишь усиливают мистическую атмосферу. Бабушку, усевшуюся с книгой в кресле, окружает детвора. Девочки завороженно наблюдают за рассказчицей, раскрыв глаза от удивления, а мальчишки, хоть и сохраняют невозмутимость, забыли о своих игрушках и тоже очень увлечены... Познакомьте со сборником сказок детей, и, уверяю вас, за уши не оттянете!

Мудрые крестьяне, храбрые королевичи и прекрасные принцессы становятся героями удивительных приключений! На каждом шагу они сталкиваются с грозными великанами, страшными людоедами, безобразными ведьмами и злобными колдунами и выпутываются из таких передряг, которые вам и не снились! Выбираются из тёмных подземелий, высоченных башен, спасаются от виселицы и острых зубов, распутывают древние проклятия, вытаскивают красавиц из рук дьявольских созданий, умудряются прогнать саму Смерть, превратив её в невесомый белый туман! Обхитрить злодеев помогает не только волшебство, а и простые человеческие мудрость и доброта — этому авторы учат и маленьких читателей.

«Бедняжка был в немилости у всего дома и всегда во всём без вины виноват. Но при этом он был самый рассудительный, самый смышлёный из всех братьев: говорил мало, зато много слушал», — так Шарль Перро описывает своего Мальчика-с-Пальчика. Малютка, которого никто не признавал, сумел, благодаря своему чистому сердцу и недюжинной сообразительности, вывести братьев из дремучего леса и спасти от людоеда, который, между прочим, гнался за ребятами в семимильных сапогах!

Решительность и отвага помогают другому герою, Королевичу, сбросить оковы столетнего проклятия со спящей красавицы. Мать юноши оказывается людоедкой: собирается приготовить принцессу и её детей под сливочным соусом. Спасти ситуацию может только хитрый Повар. Что же происходит дальше? Вспомните, что такое совесть и какое мощное, почти мистическое, действие она оказывает на наше сознание — и разгадка будет близкой.

Братья Гримм, в свою очередь, учат тому, что внешность — не главное. Об этом сказка «Три пряхи». Кстати, всем, кто обвиняет сказочников в жестокости, стоит изучить их произведения повнимательней: между строк притаились весьма остроумные вещи. Лень же порицается авторами весьма прямолинейно: прилежная девушка из «Госпожи Метелицы» попадает под золотой дождь, а невежественная лежебока получает в награду за свою грубость котёл со смолой.

Хитрость, кстати, не рассматривается в произведениях как порок, а, наоборот, всячески помогает героям. Например, распутать загадку чёрта и узнать, для чего же могут пригодиться «в быту» старое лошадиное копыто, рёбра кита и морской кот. Смекалка помогает и персонажу истории «Искусный вор». Исключительно благодаря светлой голове, а не волшебным средствам, юноша уводит лучшего графского коня из-под носа его стражи и... умыкает из храма священника!

Ганс Христиан Андерсен, в свою очередь, повествует детям о знаменитом огниве, из которого появляются большие собаки, исполняющие желания; соловье с чудесным голосом, который пел для китайского императора во дворце из драгоценного фарфора; гадком утёнке, ставшим лебедем. Добро здесь всегда побеждает зло.

Грустью окутаны произведения сказочника про снеговика, старый дом и ель — они очень похожи на басни. Снежный комочек с сердцем в виде кочерги мечтает о тёплой печке, а потом превращается в лужу под лучами весеннего солнца. Старик, одиноко живущий в причудливом доме, украшенном портретами рыцарей в латах и дам в шёлковых платьях, с засушенными цветами на окнах и старинными часами, превращается в доброе воспоминание. Ёлочка, которой не жилось на воле в лесу и хотелось поскорей вырасти, попасть к людям на Рождество, быть украшенной конфетами и шариками, пылится в чулане, а потом отправляется на растопку... «Цените каждое мгновение», — советует писатель.

Любителям экзотических и необычных сказок наверняка понравятся истории Вильгельма Гауфа. Один только «Маленький Мук», действие которого разворачивается в Никее, затрагивает такие глубокие струны души, что невольно появляются слёзы умиления! «Когда отворялась дверь, сперва показывалась большая голова с ещё большим тюрбаном, а затем следовало остальное тельце, одетое в потёртые шаровары и широкий пояс, на котором висел длинный кинжал, такой длинный, что было не разобрать: Мук надет на кинжал или кинжал на Мука», — с юмором, обаятельно повествует писатель. Мораль рассказа в том, что за доброту судьба всегда даёт человеку дополнительный шанс — пусть и не всё получается сразу, но опускать руки нельзя! Это хорошо усвоили и герои сказки «Калиф-Аист», ведь сумели же превратиться из птиц в людей, преодолев заклятие ужасного мага, да ещё и попутно спасти неземной красоты принцессу, некогда ставшую совой! Книга «Великие сказочники» вдохновляет на поступки и вселяет уверенность, что на свете нет ничего невозможного.

**Мария ВОЙТИК**

# «Самолётики» из перьев




На континентах нашей планеты спокойно расхаживают по суше, легко парят в воздухе и виртуозно ныряют под воду далёкие потомки птерозавров. Взмывают выше гор или роют глубокие норы, растят детёнышей среди ледяных пустошей или строят уютные домики под сенью тёплых лесов, скрываются от человека в джунглях или стараются быть ближе и даже кормятся из рук. Да и «одеваются» часто ярче, чем актёры в театре, дают фору знаменитым путешественникам, преодолевая необъятные пространства... Кто же это? Детская энциклопедия «Птицы», вышедшая в издательстве ООО «Харвест», дарит юным читателям экскурсию в Царство пернатых!

Вместе с книгой вы прогуляетесь по пустыням Австралии, саваннам Африки, пампасам Южной Америки, а потом завернёте в сельву Амазонки, чтобы полюбоваться на прекрасных ара и колибри, похожих на жужжащих бабочек. Африканский страус, кстати, — самая крупная из современных птиц: рост достигает 2,5 метра, а вес — 150 килограммов. Не бойтесь заглянуть и в промёрзшую тундру, в небе которой всегда парит полярная сова, а также в Антарктиду, где живут милейшие создания — пингвины. Их перья, если верить авторам книги, создают водонепроницаемую оболочку, плотно прилегая к телу, а крылья видоизменились в ласты и позволяют прекрасно нырять.

Обратите внимание и на обитателей тёплых озер — красных и розовых фламинго: детёныши этих птиц рождаются светло-серыми, прямо как из сказки про гадкого утёнка. Зато со временем приобретают заметный окрас благодаря поступающим с пищей пигментам. Да, и не забудьте, что удивительное совсем рядом: в садах и парках родного города бродят не менее интересные существа с богатым прошлым — голуби. Из энциклопедии легко узнать, что когда-то они служили отличными почтальонами, а во время войн и вовсе обеспечивали осаждённым городам единственную связь с внешним миром.

Почему перья птиц блестят? Что, кроме белка и желтка, находится внутри яйца? Как устроен скелет пернатых и почему их кости такие лёгкие? Как ориентируются в пространстве перелётные «кочевники», которых называют природными навигаторами? Только представьте: крохотная камнешарка из Арктики в сутки преодолевает примерно 920 километров, перебираясь на юг! Стриж же может летать со скоростью 160 километров в час, притом сам едва умещается на ладони. А как вам такой факт: «Куры были приручены более 5 тысяч лет назад, но их дикая родня до сих пор живёт в индийских джунглях и называется джунглевыми курами». Выходит, деревенские драчуны не так уж просты: среди их родственников, как ни удивительно, — нарядные павлины, распускающие хвост веером.

Внимательные читатели смогут узнать, как устроены птичьи домики и насколько они разнообразны: лёгкие помосты на ветках, норы в обрывистых берегах, прочные висячие коконы, плавучие сооружения, чаши из сухих прутиков и трав... Птицы, оказывается, ещё и великие изобретатели! И, между прочим, заботливые родители. Благодаря энциклопедии вы узнаете, что о яйце, где развивается будущий пингвинёнок, заботится папа, пингвин. Самец держит его на ногах, под складкой живота, в течение девяти недель. При этом птица может ничего не есть и выдерживать 60-градусный мороз.

Все энциклопедические справки в книге написаны доступным языком и сопровождаются любопытными очерками из истории, мифологическими рассказами и даже обрывками красивых легенд. Оказывается, «самым старым жилищем аиста считается гнездо, построенное на башне в восточной части Германии, которое служило птицам домом с 1549 по 1930 год». А вот в «Древнем Египте ибис считался священной птицей, потому что прилетал в эти земли одновременно с разливом Нила». И наконец, знаете ли вы, кто стал национальным символом Новой Зеландии? Почётное млекопитающее киви! Своими повадками и внешним видом эти птички напоминают зверей. Их оперение похоже на мех, у них прекрасно развит нюх, а острый клюв в три раза длиннее крыльев. Много интересного спрятано в энциклопедии, а чтобы стать свидетелями невероятно любопытных фактов, особых затрат не требуется!

**Мария ВОЙТИК**

*Парады пачаткоўца*



**Ігар ПАЛЯКОЎ**

# Дарогамі прэзентацый

Прайшоўшы таемнымі сцежкамі пошуку выдавецтва, ты стаў адным з «прысвечаных» — пісьменнікам. Выдавец урачыста ўручыў сігнальны асобнік кнігі, на якой выведзена тваё імя. Цяпер ты — афіцыйна пацверджаны пісьменнік!

Што цяпер? Прадаваць кнігу. А разам з ёй і твае імя. Так, цяпер ты ў выдавецкім бізнесе. Але нічога страшнага, у новага аўтара ёсць зараз два выдатныя моманты. Першы — магчымасць зарабіць сваім розумам, працай, творчасцю. Другая — магчымасць выйсці ў людзі, паказаць сябе і свой твор. Няма асаблівага сэнсу спыняцца на першым пункце: нават вядому аўтару зарабіць пісьменніцкай працай сёння не проста. Таму спынюся на другім. Яго абмінуць нельга: кантракт з выдавецтвам падпісаны, таму лепш падрыхтавацца загадзя.

Вядома, выдавецтва будзе рэкламаваць вашу кнігу на ўсіх магчымых інтэрнэт-рэсурсах. Вядома, ваша гісторыя з'явіцца ва ўсіх кніжных крамах, у тым ліку анлайнавых. Але! Мы ж разумеем, што чалавецтва ўмомант не даведаецца пра тое, што ёсць такі выдатны пісьменнік, як вы, з такім цудоўным раманам. Увогуле, дарагі геній, рыхтуйся да прэзентацый! Я распавяду крыху пра тэхналогію таго, як прэзентуецца кніга і навошта гэта патрэбна.

Натуральна, галоўны інфармацыйны ўдар — на бібліятэкі і кніжныя гандлёвыя сеткі. З аднаго боку, бібліятэкі зацікаўлены ў «новай крыві» — кніжных навінках і аўтарах, а з іншага — выдавец праз бібліятэчную сетку мае магчымасць распаўсюдзіць свой уплыў на патэнцыйнага чытача. З крамамі крыху складаней: тут мноства дадатковых уплывовых фактараў, маркетынгавых, асабістых.

Тым не менш высновa простая: вас трэба тэрмінова паказваць бібліятэкарам, прадаўцам крамаў. З гэтага часу вы не належыце сабе — зараз вы належыце дарозе. Прэзентацыі ў кнігарнях, паездкі па бібліятэках краіны. Сустрэчы з чытачамі, супрацоўнікамі бібліятэк і кнігагандлярамі…

Як у той прыказцы: сустракаюць па адзенні, а праводзяць... па продажах кніг. Вы павінны быць гатовы, што слухаць на гэтых сустрэчах перш за ўсё будуць вас. На вас будзе звернута ўся ўвага, і менавіта праз вас людзі ўспрымуць і твор. Я, вядома, не буду раіць чытаць артыкулы па маркетынгу — гэта праца выдаўца, але ж людзі, якія будуць вас слухаць, павінны адчуць асабіста вас — у першую чаргу, і толькі потым — сюжэт, які вы прапануеце.

Вядома, ваша выдавецтва само прыдумае і прадумае стратэгічны план дзеянняў. Прадумае магчымыя пытанні, нават падкажа план, як лепш расказаць пра кнігу. Але! Вы і кніга — адно. Хай слухачы зразумеюць, што вы незвычайны чалавек, які змог распавесці выдатную гісторыю. Сфармулюйце дакладна для сябе, пра што ваша кніга, што натхніла на яе напісанне.

Пішаце вершы? Выдатна! Вучыце іх на памяць і чытайце. Маеце рэальныя гісторыі, звязаныя з сюжэтам, героямі-прататыпамі? Распавядайце! І задоўга да паездак трэніруйцеся, прагаворваючы гэта ўсё сабе. У ложку, на прагулцы, сябрам, жывёлам… Рыхтуйцеся, прамаўляць давядзецца шмат.

І апошняе: трэніруйце руку, прыдумайце цікавы і арыгінальны подпіс. Упэўнены, вам трэба будзе падпісаць мноства тытульных старонак, пакінуць шмат аўтографаў на ўспамін чытачам.

**Ігар ПАЛЯКОЎ**

# Пакліканне ў гістарычны пошук



Пісьменніца Ірына Шатыронак з Гродна працуе ў розных кірунках. У мастацкай прозе. У крытыцы. У публіцыстыцы. З новых яе пошукаў — гісторыка-дакументальны твор пра даваеннае жыццё ў Заходняй Беларусі… Пра тое, як пісьменніца прыйшла да гэтай тэмы, чым кіравалася, і пойдзе наша размова.

**— Мастацкая проза пра сучаснасць, актыўная літаратурна-крытычная работа... І раптам... Чым гэта абумоўлена? Чаму менавіта такая выбрана вамі тэма?**

— Хутчэй нечакана, хоць, як кажа мне старэйшы сын, — гэта галоўная кніга ў тваім жыцці. Напэўна, ён мае рацыю. У кожнай сям'і, калі добра пакапацца, можна адшукаць шмат гістарычных пластоў. Так і я, пачынала з прыватнай, амаль хатняй гісторыі, вырашыла распавесці пра сваю свякроў, яе ўжо даўно няма на гэтым свеце — Варвара Канстанцінаўна дачка праваслаўнага святара, якога рэпрэсавалі ў 1929 годзе, сляды яго потым згубіліся дзесьці ў Сібіры.

Пачынала пісаць чыстую белетрыстыку, не маючы на руках ніякіх архіўных дакументаў, толькі яе кароткія ўспаміны. У 2013 годзе часопіс «Алеся» апублікавала невялікі аповед, прысвечаны некаторым старонкам жыцця гэтай сціплай жанчыны, пад назвай «Сям'я святара Будоль».

Акрамя рэпрэсаванага бацькі, у Варвары былі яшчэ тры браты: старэйшы Мікалай і малодшы Сяргей таксама патрапілі ў крывавую мясарубку рэпрэсій. Ад задумкі твора да яго напісання, публікацыі часта праходзіць шмат часу. Так атрымалася і ў мяне. І, здараецца, твор не адпускае, хаця напісаны многія яго старонкі…

Раней у мяне не было вопыту працы ў архіве — прыйшлося знаёміцца, чытаць, а потым апрацоўваць шмат арыгінальных польскіх дакументаў 1920-х, 1930-х… Новая праца запатрабавала пэўных навыкаў, цярпення… Працэс стварэння мастацкага твора вельмі адрозніваецца ад дакументальна-мастацкага.

**— Калі вы пачыналі знаёміцца з тым часам, той, як мне падаецца, для нашага грамадства даўно забытай эпохай, ці не было ўражання, што героі 1920-х, 1930-х заходнебеларускіх гадоў могуць быць мала цікавымі сёння? Ці ўсё ж, толькі зазірнуўшы ў ранейшыя глыбіні памяці праз архівы, іншыя дакументальныя сведчанні, складвалася меркаванне, што яны, такога гарту «заходнікі», патрэбныя чытачу сёння?**

— Любую на першы погляд нязначную гісторыю, можна ператварыць у займальны сюжэт — усё залежыць не так ад матэрыялу, як ад самога даследчыка. Для мяне не існуе малацікавых тэм. Такая карпатлівая праца падобная да прафесіі следчага або археолага. Бо ў пачатку свайго шляху я мела вельмі мала звестак, літаральна крупінкі. Адзінае, што ведала — напрамак руху ў часе і прасторы, а менавіта — тэрыторыя сучаснага Навагрудскага, Карэліцкага раёнаў.

Прыйшлося засесці за падручнікі, кнігі, успаміны, шукаць крыніцы ў бібліятэках і ў інтэрнэце. Тут мяне чакалі вялікія расчараванні. Перыяд 1920—30-х гадоў у Заходняй Беларусі, гісторыя КПЗБ і яе ўдзельнікаў даўно пакрытая пылам часу, многія сляды назаўжды зніклі, хоць працягваю спадзявацца на поспех і архівы, бо гэта сапраўдныя захавальнікі вялікіх і малых таямніц.

Іншыя крыніцы, да прыкладу, мастацкія творы 1960—70-х гадоў, не заўсёды праўдзівыя, бо нясуць на сабе скажоны след партыйна-ідэалагічных патрабаванняў. У сучасных гісторыкаў таксама няма вялікага імкнення ачысціць мінулае ад догмаў, стэрэатыпаў.

На мой погляд, сучаснікі маюць патрэбу ў героях. Значыць, іх трэба шукаць, адкрываць наноў, распавядаць пра той складаны, вельмі супярэчлівы перыяд, які перажывалі жыхары Заходняй Беларусі. Як яны жылі, вучыліся і свядома выбіралі шлях члена Грамады або КПЗБ, як Мікалай Будоль і многія яго таварышы. На памяць прыходзіць стары фільм пра Сяргея Прытыцкага «Чырвонае лісце».

Кнігі Сяргея Пясецкага «Чалавек, пераўтвораны ў ваўка», «Да гонару арганізацыі» з цыкла «Вавілонская вежа», «Каханак Вялікай Мядзведзіцы» многае мне адкрылі пра той складаны час, але з процілеглага боку. Яны напоўнены дакладнымі дэталямі побыту, назіраннямі, непаўторнай атмасферай тых гадоў. Кнігі дапамаглі ў рэстаўрацыі некаторых падзей. Гэта такі погляд сучасніка. Будучы пісьменнік у 1927 годзе таксама знаходзіўся ў зняволенні ў Навагрудскай турме, але яго асудзілі за кантрабанду яго нядаўнія польскія паплечнікі.

Перада мной стаіць складаная задача: прайсці паміж ідэалагічнымі фішкамі, не паддацца іх уплыву, як з польскага, так і з савецкага боку.

Па вялікім рахунку, мне трохі страшна, вельмі гэта хвалюючa і адказна выносіць будучую кнігу на суд сваякоў, землякоў, удзельнікаў тых далёкіх падзей, гісторыкаў і звычайных чытачоў.

**— А ўвогуле якімі яны былі — тыя, хто змагаўся за лепшую долю, — ідэалістамі, людзьмі, якія бачылі свет праз ружовыя акуляры, ці рэалістамі, якія думалі пра лепшае жыццё?**

— Усе гэтыя рысы былі ўласцівыя ці не кожнаму з іх… Вядома, многія з членаў Грамады і КПЗБ былі ў добрым сэнсе ідэалістамі, таму што спадзяваліся на хуткія грамадскія перамены, у якіх яны самі актыўна і ўдзельнічалі. Сёння ў маладых хутчэй сустракаеш форму, чым саму сутнасць той жа ідэалогіі.

Маладыя падпольшчыкі, якія апынуліся ў студзені 1927 года ў Навагрудскай турме (следства ішло амаль год, прысуд быў вынесены ў канцы снежня 1927), выдатна ведалі, на што ідуць. У выпадку правалаў, даносаў канфідэнтаў іх чакала паліцэйская расправа і вялікія тэрміны зняволення ў страшных казематах такіх як сумна вядомая турма ў Вільні «на Лукішках». У паліцэйскай дзяржаве, якой была на той момант Польшча, асуджаныя аўтаматычна станавіліся палітычнымі крымінальнікамі.

Наўрад ці яны глядзелі на жыццё праз ружовыя акуляры. Хоць падпольшчыкі былі вельмі маладымі людзьмі, навучэнцамі Навагрудскай беларускай гімназіі, некаторым ледзь споўнілася 16 гадоў, але сумесная праца, суровыя ўмовы жыцця, небяспека, пастаянная рызыка, канспірацыя рана загартавалі грамадоўцаў і членаў КПЗБ, хлопцы і дзяўчаты рана пасталелі. Многія потым атрымалі пажыццёвыя тэрміны ў польскіх турмах. Вызваленне Заходняй Беларусі Чырвонай Арміяй у 1939 годзе стала для многіх сапраўдным выратаваннем. Арганізацыйныя навыкі потым ім вельмі спатрэбіліся, калі прыйшлося сыходзіць у 1941-1942 гг. ў Налібоцкую пушчу, былыя падпольшчыкі станавіліся партызанамі Вялікай Айчыннай вайны.

**— Што вас найболей уразіла падчас гісторыка-краязнаўчага пошуку?**

— Знаёмства з Барысам Уладзіміравічам Кітом, хай толькі тэлефоннае. Цяпер ён жыве ў Франкфурце-на-Майне, нягледзячы на вельмі сталы ўзрост, захаваў свежую памяць, жвавасць розуму, дапамог разабрацца ў некаторых складаных момантах той старой справы. Вучоны з сусветным імем у 1927 праходзіў у адным вялікім спісе арыштантаў Навагрудскай турмы.

На той момант яму споўнілася ўсяго сямнаццаць гадоў, але ён, як вучань беларускай Навагрудскай гімназіі, таксама не пазбег арыштаў і допытаў. Канфідэнты і паліцэйскія вялі за многімі ўдзельнікамі падполля нагляд, у дом да Барыса Кіта прыходзіла шмат моладзі, таму ўлады палічылі яго небяспечным і актыўным удзельнікам Грамады. Захаваліся архіўныя дакументы, якія пацвярджаюць гэты факт. Аказалася, што ён, як лепшы гімназіст, дадаткова займаўся са сваімі аднагодкамі матэматыкай.

**— Збіраючы матэрыялы для аповесці, вы шмат ездзілі па Гродзеншчыне... Удалося разгледзець атмасферу даваеннай даўніны?**

— Старыя захоўваюць мінулае, з'яўляюцца носьбітамі жывой гісторыі Заходняй Беларусі, гэта незвычайныя людзі. Яны распавядаюць пра асаблівасці ладу жыцця сваіх бацькоў, бабуль і дзядуляў «пры палякаx», з якой радасцю сустракалі салдат Чырвонай Арміі, пра расчараванні, звязаныя з раскулачваннем і арганізацыяй калгасаў, даносы і арышты.

У сваю чаргу ўсходнія беларусы дзівіліся заможнаму жыццю паноў — тады сялянскія сем'і трымалі вялікую гаспадарку: па 6—8 кароў, каня, з тузін авечак, паўсотні гусей, «мы ж працавалі, сьвятла божага ня бачылі, на жніво наймалі работнікаў, плацілі ім, у каго было шмат зямлі, той і жыў, у каго мала зямлі, прыкупляў...».

Старыя пражылі доўгае жыццё, поўнае трагічных ваенных падзей, страчвалі блізкіх, на іх вачах расстрэльвалі родных, іх заганялі ў свірны, падпальвалі, яны мерзлі, гарэлі, галадалі, заставаліся сярод спусташэння, жылі ў падвалах спаленых дамоў, зноўку адбудоўваліся, вучыліся, працавалі, гадавалі дзяцей.

Яны гублялі ўсё з нажытага скарбу, але не страцілі нічога з духоўных назапашванняў, выйшлі маральнымі пераможцамі. Іх жыццёвы вопыт важны, як падмурак, аснова, якая цэментуе наша жыццё. Такія людзі, як Вольга Мікалаеўна Станкевіч, яе сястра Ганна Уладзіміраўна Бандарык з Яраміч, Алена Паўлаўна Новік, Міхаіл Міхайлавіч Карповіч з Любчы, захавалі найлепшыя чалавечыя якасці беларуса.

Многія запісаныя апавяданні відавочцаў патрабуюць далейшай дапрацоўкі, але ў мяне ўсё нейкім чынам будзе выкарыстана. Праца ў архівах паклікала мяне ў Ярэмічы, Верaскава, Любчу, Лаўрышава, Валеўку, Турэц, Мір, Карэлічы, Навагрудак, Гарадзечна, захацелася дакрануцца да той зямлі, убачыць Нёман, яго прыткі, пазнаёміцца з людзьмі. Я шчыра і назаўсёды палюбіла гэты край.

**Гутарыў Сяргей ШЫЧКО**

# Цяпло суперажыванняў





*Уладзімір Слабодчыкаў прадстаўляе праект помніка Першай сусветнай вайне.*

Падзеяй у айчынным мастацтвазнаўстве можна лічыць выпуск у Выдавецкім доме «Звязда» альбома «Уладзімір Слабодчыкаў. Скульптура». Праект ажыццёўлены пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі краіны. Аўтар тэксту — вядомы мастацтвазнаўца, дырэктар музея сучаснага выяўленчага мастацтва Наталля Шаранговіч. Дызайн і макет кнігі — Аляксандра Кулажэнкі, фотаздымкі — Г. Ліхтаровіча, Я. Коктыша, М. Слабодчыкава, Н. Асмола.

Разам сабраны бязмежныя па сваіх сэнсах выявы скульптур вялікай і малой формы, якія здолеў асіліць таленавіты творца Уладзімір Слабодчыкаў. Пачатак дарогі да тых вышынь, якія сёння адолеў майстар, — у 1970-х гг. У 1973-м — удзел у першай выстаўцы. Работы Уладзіміра Слабодчыкава знаходзяцца ў Траццякоўскай галерэі, галерэях і музеях ЗША, Італіі, Кітая, Германіі, Турцыі, Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў. Помнікі, якія зроблены і задуманы У. Слабодчыкавым, — у Мінску, роднай Вілейцы, Віцебску, Светлагорску, Рэчыцы… У Беларусі многія галерэі і музеі лічаць за гонар мець у сваёй экспазіцыі скульптуры У. Слабодчыкава. Адрасы — Нацыянальны мастацкі музей, Музей сучаснага выяўленчага мастацтва, Полацкая карцінная галерэя, Дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

Наталля Шаранговіч, аўтар тэксту альбома, адзначае ў сваім доследзе пра скульптара: «… У яго работах з'яўляецца эмацыянальнасць, малюнак носіць напружаны, поўны экспрэсіі характар, часам нават мае месца некаторая дэфармацыя вобразаў. Спецыфічнымі элементамі рэльефаў Уладзіміра



*Фота Наталлі Асмола*

*Фрагмент помніка народнай артыстцы Беларусі Стэфаніі Станюце.*

Слабодчыкава сталі разнастайнасць кампазіцыйных рашэнняў, выразнасць лепкі. Яго творы адлюстроўваюць свет уяўны, насычаны няўлоўнай матэрыяй падсвядомасці, прадчуваннямі, невычэрпнымі магчымасцямі творчай інтуіцыі. Ад Альберта Джакамеці і Генрыха Мура мастак атрымлівае ў спадчыну ідэю адухоўленай, зменлівай прасторы, у якой галоўнае — успрыманне гледача…»

Скульптар — аўтар многіх работ невялікага памеру. Выкананыя з сілуміну, бронзы, яны досыць ўражлівыя, нягледзячы на сваю камернасць. «Архаічны танец», «Прысвячэнне Шагалу», «Каляды»... Тут не проста настрой і сюжэт — у работах адлюстроўваецца светапогляд мастака, яго здольнасць паставіць і вырашыць звышзадачу. Уладзімір Слабодчыкаў надзвычай удумлівы майстар, чым і цікавы, і прыцягальны. Невыпадкова і ў музеі, каля яго работ, і гартаючы старонкі альбома, заўсёды спыняешся ў развагах. Зрок пасылае сігнал: «Не спяшайся, угледзься ў сутнасць, пашукай дарогу да асэнсавання ідэй мастака». І, як правіла, такая дарога знаходзіцца досыць хутка. Складваецца ўражанне надзвычайнай адкрытасці скульптара, яго моцны рух да гледача. Здараецца, што творцу не хапае прасторы адной працы. Тады нараджаюцца кампазіцыі. Як прыклад — «Куды ідзеш?», шэраг работ, выкананых у бронзе. Цікавае скульптару і дрэва. Глядзіш і не можаш нагледзецца на яго простыя і зразумелы «Дотык», на яго захапляльных «Лялечнікаў»… Не менш цікавая «Афрадзіта» ў дрэве. Мяркуючы па датах выканання тых ці іншых работ, у скульптара ёсць свае этапы прызнанасці да пэўнага матэрыялу.

Але ж і помнікі, памятныя знакі, мемарыяльныя кампазіцыі, тое, што выходзіць у шырокую прастору, — частка планеты таленавітага творцы.

Знаёмства з альбомам, прысвечаным скульптуры Уладзіміра Слабодчыкава, — гэта і выкладанне перспектыў мастака. Творца знаходзіцца ў дарозе і ў пошуку. Наперадзе — новыя здабыткі, здзяйсненне многіх задумак. А што да грунтоўнага, цікавага з розных пунктаў гледжання альбома, то гэта — візітка таленавітага скульптара. Выданне стала падзеяй у многім дзякуючы дызайнеру, аўтару макета кнігі Аляксандру Кулажэнку.

У апошнія гады Выдавецкі дом «Звязда» выпусціў у свет цэлы шэраг мастацкіх кніг, альбомаў. Яны прысвечаны цікаваму жывапісцу і графіку Сержуку Цімохаву, майстрам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Мікалаю Тарасюку, Івану Супрунчыку, жывапісцам-інсітнікам. Працаваць над такімі кнігамі няпроста. Яны патрабуюць надзвычайнай рэдактарскай зацікаўленасці, тэхналагічнай дасведчанасці. Але відавочна, што руплівасць выдаўцоў у такім кірунку — і засваенне пэўнага досведу. Альбом, прысвечаны скульптуры Уладзіміра Слабодчыкава, — крок наперад у вырашэнні гэтай задачы.

**Павел АЛЬСОВЫ**

# Святочны тыраж Кашкурэвіча

Які падарунак самы жаданы і дарагі? Той, што ад душы. Нацыянальны мастацкі музей Беларусі ўлагодзіў аматараў выстаўкай народнага мастака Беларусі Арлена Кашкурэвіча «Ab imo pectore» («Ад усёй душы»). У экспазіцыі — адмысловыя віншавальныя паштоўкі майстра ў тэхніцы лінагравюры. Адкрыццё суправаджалася прэзентацыяй кнігі «Арлен Кашкурэвіч», падрыхтаванай выдавецтвам «Беларусь».

Арлен Кашкурэвіч (1929 — 2013) — адзін з вядучых графікаў Беларусі. Аднойчы пакліканы ідэалам, ён пакараў вяршыні мастацтва самаадданасцю і працай. Сярод вядомых работ — станковыя серыі «Майстры», «Партызаны», графічны цыкл «Гэтае мілае гарадское жыццё», ілюстрацыі да паэм Янкі Купалы («Курган», «Бандароўна», «Магіла льва»), Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра», да рамана «Атамная станцыя» ісландскага пісьменніка Хальдаўра Лакснеса, серыі «Варыяцыі на тэму «Фаўста» Гётэ. Працаваў і ў малым жанры экслібрыса і мініяцюры.

— У новым годзе мы распачынаем унікальны праект — адкрываем малы фармат мастака, — распавёў дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў. — Бо пра своеасаблівыя паштоўкі шырокае кола, напэўна, не ведае, акрамя тых, каму творца іх дарыў.

У цяперашняй выстаўкі камерны характар (вялікая выстаўка з шырокім ахопам творчасці ладзіліся ў музеі год таму). Прадстаўленыя паштоўкі адлюстроўваюць арыгінальны погляд мастака. Яркія запамінальныя лацінскія надпісы, мудрыя і карысныя, прасякнуты цеплынёй, настройваюць на добры лад: «Заўсёды ў руху», «Сцеражыся няшчырых сяброў», «Прырода не церпіць пустаты», «Хто мае




*Арлен Кашкурэвіч «Я зрабіў усё, што магчыма».*

вушы, хай пачуе», «Каго любяць, таго і караюць», «Лаві імгненне», «У добры час» і г. д.

Госці з цікавасцю разглядалі мініяцюры.

— На працягу многіх гадоў да Новага года ён рабіў свой тыраж, — распавёў графік, жывапісец Георгій Паплаўскі. — Для сапраўднага мастака нават забава ўяўляе інтарэс, нават жарт майстра працуе.

Новы аспект творчасці ўражвае шчырасцю, пяшчотай, вытанчанасцю. Малыя формы не саступаюць вялікім. Арлену Кашкурэвічу ўвогуле ўласцівы філасофскі падыход, пранікненне ў сутнасць тэмы, сцвярджэнне грамадзянскай пазіцыі. Гэта можна назіраць у іншых яго творах. Глыбей пазнаёміцца з творчасцю мастака запрашае кніга «Арлен Кашкурэвіч» з серыі «Славутыя мастакі з Беларусі» — сумесны праект Нацыянальнага мастацкага музея і выдавецтва «Беларусь». У серыі ўжо выдадзена 15 кніг. Надышоў час і Арлена Кашкурэвіча. На жаль, раней асвятленню творчасці мастака надавалася не так шмат увагі. Апошняя кніга пра Кашкурэвіча выйшла амаль 40 гадоў таму, у мяккай вокладцы, невялікая. Аўтар — Мікалай Ганчароў. Выправіць становішча ўзяўся вопытны спецыяліст выдавецтва «Беларусь», вядучы навуковы супрацоўнік навукова-фондавага аддзела, захавальнік калекцыі беларускай арыгінальнай графікі Канстанцін Барабанаў. Падрыхтаваў вялікі аб'ём ілюстрацый, каб прадставіць творчасць Арлена Міхайлавіча найбольш поўна. Уступны артыкул арыентаваў на шараговага чытача: мала хто заглядае ў тэксты — таму стаўка на ілюстрацыі.

Прэзентуючы выданне, дырэктар выдавецтва «Беларусь» Ганна Трусевіч адзначыла мэтазгоднасць малога фармату кнігі. «Малы залатнік — ды дарагі», — прыкмеціўшы, далучыўся мастак, графік Уладзімір Савіч. Дарэчы, Уладзіміру Пятровічу было шмат што сказаць: многа гадоў працаваў з майстрам: «Мне пашчасціла з 1970-га года, як толькі стаў студэнтам, быць знаёмым з Арленам Кашкурэвічам. Нам, пачаткоўцам, вучылася лёгка: было на каго раўняцца, калі побач рабілася знакамітая «Бандароўна». Наступная вяха — Мікола Гусоўскі. Арлен Кашкурэвіч шукаў вечнае ў мастацтве. І падымаў да вялікіх вяршынь».

Гэта прыцягвала, гуртавала вакол паслядоўнікаў, аднадумцаў, паплечнікаў. Мастацтвазнаўца Барыс Крэпак ведаў Арлена Міхайлавіча з 1955-га года, калі ўпершыню ўбачыў яго дыпломную «Атамную станцыю» Лакснеса. А адной з першых ілюстрацый была яго работа «Прыгоды Гекльберы Фіна». «Арлен Міхайлавіч сапраўды быў зоркай, геніем нашай выяўленчай культуры», — упэўнены Барыс Аляксеевіч.

Імпрэза сабрала неабыякавых дзеячаў мастацтва, энтузіястаў, калег. Шчодра выказваліся сябры. Рыгор Сітніца, старшыня Саюза мастакоў Беларусі, шкадаваў, што мала размаўляў з творцам: «Кашкурэвіч — гэта плён дзівоснага жыцця, непаўторнага таленту. Ён быў адзін такі і больш не паўторыцца». Мастацкая грамадскасць ведае свайго героя. Слова бралі таксама скульптар Леў Гумілеўскі, пісьменнік і грамадскі дзеяч Анатоль Бутэвіч, сын Арлена Кашкурэвіча Фёдар. Нашчадак атрымаў ад Нацыянальнага мастацкага музея прэзентаваную кнігу з серыі «Славутыя мастакі з Беларусі». Прыемны набытак чакаў і супрацоўнікаў музея. Ала Зміева, гаспадыня «Кніжнага салона», урачыста перадала музею кнігу «Беларускі экслібрыс». Арлен Кашкурэвіч» з серыі «Беларускі exlibris» са спадзяваннямі, што выданне дапаможа ў далейшых даследаваннях творчасці мастака. Ала Барысаўна прызналася, што менавіта Арлен Міхайлавіч натхніў яе на тое, каб з'явілася такая серыя. Адметна, што Арлену Кашкурэвічу прысвечана першая кніга (усяго — 8) серыі экслібрысаў.

«На дэсерт» арганізатары падрыхтавалі канцэрт. Слухачы смакавалі папулярныя класічныя мелодыі ў выкананні музычнага праекта «Bon-Voyage». Але на гэтым сюрпрызы не скончыліся. Можна было паспытаць удачу: разыгрываўся прыз. Шчаслівчык атрымаў два білеты на выстаўку «Вынаходствы да Вінчы», што адкрыецца ў сакавіку.

**Наталля СВЯТЛОВА**

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*З пошты «ЛіМа»*

# Паэтычныя калекцыі

Сённяшні час увагі да электроннага статусу інфармацыі пазбавіў чытача (заўважым, раней вельмі актыўнага і зацікаўленага чытача) патрэбы збіраць надрукаванае — і кнігі, і часопісы, і газеты — па той ці іншай тэме. Змізарнеў атрад бібліяфілаў. Згубіліся недзе масавыя зацікаўленні кнігамі з аўтографамі. А калісьці быў, між іншым, бум на такія зборы…

Нядаўна мне ў рукі патрапіла кніга Фелікса Мядзведзева «Вазнясенскі. Я цябе ніколі не забуду» (Масква, «Алгоритм», 2013). Відаць, шмат хто з чытачоў памятае гэтага вядомага журналіста «Огонька» ў 1975 — 1990-я гады. Героямі яго інтэрв'ю былі Габрыэль Гарсія Маркес, Грэта Гарбо, Курт Вонегут, Франсуаза Саган, Ніна Берберава, Чынгіз Айтматаў, Васіль Быкаў і шмат хто яшчэ са знакавых персанажаў сусветнай культуры.

Кніга Ф. Мядзведзева пра паэта Андрэя Вазнясенскага (дарэчы, яго жыццё багатае на судакрананні з Беларуссю) — цікавае падсумаванне стасункаў расійскага журналіста са славутым паэтам на працягу многіх дзесяцігоддзяў. Гэта і запіс уражанняў ад даўніх сустрэч, і пераказ, цытаванне колішніх сваіх і чужых публікацый. У кнізе шырока выкарыстаны ілюстрацыйны матэрыял. Большасць здымкаў — з архіва Ф. Мядзведзева. Журналіст добра вядомы сваімі кнігазнаўчымі зацікаўленнямі, калекцыяй «Першая кніга паэта».

Знаёмства са зборнікам матэрыялаў пра Андрэя Вазнясенскага падштурхнула вось да якіх разваг і пытанняў. А ці з'яўляецца беларускае мастацкае слова прадметам падобнага, скажам так, калекцыйнага зацікаўлення? І ў нас ёсць імёны ў літаратуры, постаці ў мастацтве, вартасць якіх ні ў якім разе не саступае маштабам асобы сапраўды вялікага паэта Андрэя Вазнясенскага. Але ці збірае хто ў нас гісторыка-літаратурныя калекцыі, прысвечаныя Васілю Быкаву, Уладзіміру Караткевічу, Рыгору Барадуліну, Аркадзю Куляшову, Алесю Адамовічу?..

Памкненні да збірання такога кшталту калекцый спрыяюць развіццю літаратурнага краязнаўства, уплываюць на фарміраванне фондаў грамадскіх і дзяржаўных музеяў. Беларускае прыгожае пісьменства — велізарная планета, крыніца многіх з'яў, паяднанне грамадства ў асветніцкіх, культурніцкіх памкненнях. Стварэнне атмасферы вакол гэтых рухаў — задача ўсяго грамадства. Магчыма, рэалізоўвацца яна будзе больш шырока, калі і беларускія газеты, часопісы будуць больш уважлівыя да праяў калекцыяніравання, збіральніцтва адметнасцей з жыцця і творчасці беларускіх пісьменнікаў.

**Павел АЛЬСОВЫ, г. Мінск**

# «Жывіца» запрашае

Клуб «Жывіца», які працуе пры Мінскім абласным цэнтры народнай творчасці, аб'ядноўвае кампазітараў і паэтаў вобласці. Ужо 17 з іх сталі членамі Саюза пісьменнікаў Беларусі, 8 — Саюза музычных дзеячаў Беларусі. Нязменна кіруе суполкай Ірына Карнаухава, намеснік старшыні Мінскага абласнога аддзялення СПБ. Кожную трэцюю нядзелю месяца тут праходзяць пасяджэнні з удзелам цікавых асоб.

На адну з іх завітала актрыса і педагог Наталля Краснадубская, якая правяла тэатральны і практычны майстар-клас па сцэнічным слове і тэхніцы маўлення. Лёгка ўдалося ёй далучыць залу да інтэрактыву: усе працавалі з задавальненнем.

Наступным разам госцем «Жывіцы» стаў старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў, які падзяліўся з прысутнымі думкамі пра літаратурны працэс, перакладчыцкую дзейнасць, прачытаў уласныя вершы і пародыі, адказаў на пытанні, пазнаёміў са сваімі кнігамі. Сустрэча сталася выдатным стымулам для далейшых творчых стасункаў.

**Лілія МЯЛЕШКА**

# Сведкі мінулых бітваў

**Патрапіць у эпоху смелых рыцараў і ваяроў прапануе выстаўка «Доблесць і слава: даспехі ды ўзбраенне XV — XVII стагоддзяў», якая працуе ў сталічным музеі археалогіі. У экспазіцыі — каля 60 унікальных экспанатаў з прыватнай калекцыі майстра даспехавых спраў, ураджэнца Магілёва Сяргея Нурматава.**



*Каменныя фундаменты.*



*Кірасірскі даспех. Рэканструкцыя па ўзоры 1630 г. Паўднёвая Германія.*

*Фота Кастуся Дробава*

У тым ліку 10 поўных камплектаў даспехаў пехацінцаў і кавалерыстаў, прычым вага кожнага — каля 30 — 50 кілаграмаў. У гэтай амуніцыі ў асноўным ваявалі рэйтары — наймiты, якіх называлі чорнымі вершнікамі, ці д'ябламі, з-за колеру адзення. Дэманструецца таксама рыштунак кірасір, цяжкой кавалерыі, галоўны элемент якога — металічная кіраса, што абараняла тулава ваяра.

Госці музея ўбачаць і касцюмныя даспехі, выкананыя ў форме адзення. Яны лічыліся найлепшымі, забяспечвалі надзейную абарону ў турнірах і баях. Каштавалі вельмі дорага — не кожны каваль мог выканаць такую работу. Даспехі часта мелі вычварныя элементы: велізарныя пышныя рукавы, шматлікія ўпрыгажэнні, узоры.

На выстаўцы сабраныя асобныя часткі ваеннага «касцюма». Тут ёсць латныя рукавіцы і сабатоны, шлемы сапёраў ды аркебузіраў «Армэ», «Кабасэт» і «Бургіньёт». Прадстаўлена зброя: рапіры, мячы, гусарскія шаблі, кінжалы, гатычныя шастапёры ды многае іншае.

Археалагічны музей пабудаваны на тэрыторыі, якая некалі належала манастыру бернардзінцаў. Цэнтральнае месца ў экспазіцыі займаюць каменныя арачныя фундаменты аднаго з манастырскіх будынкаў VIII стагоддзя, знойдзеныя падчас археалагічных раскопак. Існуе павер'е, што каля гэтай пабудовы можна загадваць жаданні — яны абавязкова здзейсняцца!

С. Нурматаў стварае дакладныя рэканструкцыі абмундзіравання ды ўзбраення еўрапейскіх армій. Работы творцы ёсць ува многіх музеях свету. А ў сталіцы экспазіцыю можна пабачыць да 5 сакавіка.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Зэльва ды Сапегі

Вялікі канцлер Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега вядомы яшчэ і тым, што сваім Статутам 1588 года даў штуршок росту мястэчак. Пра гэта ішла размова падчас навукова-практычнай канферэнцыі «Роля Сапегаў у жыцці Зэльвенскага краю», якую ў другі раз ладзілі ў Зэльве падчас Ганненскага кірмашу.

Як распавёў дактарант кафедры новай і найноўшай гісторыі Беларусі гістарычнага факультэта БДУ Сяргей Токць, паводле Інвентару 1616 года, зэльвенскі маёнтак Сапегаў размяшчаўся на поўначы сучаснай вуліцы Булака і дзяліўся на дзве часткі. На першай стаяў крыты гонтай двухпавярховы дом з вялікай залай для гасцей. Дом на другой частцы быў меншы і не такі прывабны. Наступныя інвентары паказваюць, што будынкі пастаянна абнаўляліся. Непадалёку стаялі гаспадарчыя прыбудовы, мелася пяць агародаў, амаль да касцёла на горцы цягнуліся сады, для развядзення рыбы выкапалі некалькі ставоў. Коні ў Інвентары апісаны па масцях: відаць, гэта мела значэнне пры продажы ці вывядзенні новых парод.

Працавалі ў маёнтку жыхары з навакольных вёсак і мяшчане з Зэльвы, для якіх умовы наёму былі лягчэйшымі, чым для сялян. У самыя напружаныя дні сенакосу ці жніва выходзілі ўсе: ад малога да вялікага. Па звестках Інвентару 1633 г. відаць, што гаспадарка мела неблагі прыбытак, бо лішкі прадукцыі вазілі ажно ў Вільню!

Як дбайных гаспадароў, Сапегаў непакоіў прэстыж Ганненскага кірмашу. Каб захоўваўся належны парадак, людзі Сапегаў сачылі за падазронымі асобамі, не дапускаючы крадзяжу і разбою. Дзеля бяспекі купцоў і пакупнікоў месца продажу коней выдзялялася за мястэчкам.



Зацікавіла ўдзельнікаў канферэнцыі паведамленне пра рэфармаванне судовай практыкі і яго аргументацыя: Францішак Сапега ўлічваў… нянавісць сялян да паноў-прыгнятальнікаў. Ён лічыў, што сяляне, як людзі разумныя, здольны самі разабрацца са злачынцамі. Сапега прапануе выбраць дзясятнікаў (прадстаўнікоў ад дзесяці двароў), якія разам з войтам і будуць разглядаць справы. Магнат рэкамендуе не практыкаваць фізічных пакаранняў — больш разлічваць на маральнае ўздзеянне. Напрыклад, пэўны час вінаваты не павінен мець права наведваць масавыя мерапрыемствы, такія як Ганненскі кірмаш.

Інструкцыя, як лічыць кандыдат гістарычных навук Аляксандр Доўнар, — важны крок да гарадскога самакіравання. Магчыма, яно і было ў Зэльве, проста фактаў, якія б гэта пацвярджалі, пакуль не выяўлена.

Кандыдат філалагічных навук дацэнт Генадзь Праневіч адзначаў, што дынастыя Сапегаў існавала ў гісторыі каля 600 гадоў! Такіх родаў няшмат ва ўсім свеце. І тым больш мы можам ганарыцца гэтым фактам, што 96 працэнтаў усіх уладанняў Сапегаў размяшчалася на землях сучаснай Беларусі і толькі чатыры — на іншых, але, заўважым, блізкіх да нашай, тэрыторыях.

За працяглы час свайго жыцця Сапегі моцна паўплывалі на гісторыю і культуру краю. Навукоўца выдзяляе ў жыцці роду два перыяды: ліцвінскі і рэчпаспалітаўскі, калі магнаты ўсё больш цягнуліся да польскай культуры і мовы.

Прафесар кафедры гісторыі Беларусі, археалогіі і спецыяльных гістарычных дысцыплін, доктар гістарычных навук Святлана Марозава зазначала, што гісторыкі лічаць Льва Сапегу другім пасля Францыска Скарыны чалавекам у культуры Беларусі. Ён шмат гадоў займаў месца Канцлера ВКЛ і зрабіў важкі ўнёсак для станаўлення беларускай нацыі.

**Яніна ШМАТКО**

*Кропка на карце*

# Метадам земляка

**У кожнай ідэі ёсць не толькі аўтар, але і месца нараджэння. Дакладней, два месцы нараджэння. Спярша — пра другое. Гэта кабінеты, лабараторыі, той асяродак, дзе здзяйсняюцца адкрыцці. А першае месца нараджэння — камуналка, хата, велізарная сядзіба або ціхі падворак, дзе будучы аўтар зрабіў першыя крокі, адкуль паглядзеў на свет. Кіруючыся гэтай логікай, выпраўляюся ў падарожжа ў вёску Груд Пухавіцкага раёна, на радзіму метаду Шычко.**

У Санкт-Пецярбургу ў гонар нашага земляка назвалі нават грамадскую ўстанову: гэта акадэмія сацыяльных тэхналогій імя Генадзя Шычко. Чым прыкметны метад Шычко і каму ён даў палёгку ў жыцці?

Піцерскі біёлаг, псіхіятр, фізіёлаг Генадзь Андрэевіч Шычко нарадзіўся ў пухавіцкім Грудзе ў маі 1922 года. На першы погляд, яго адкрыццё дастаткова простае. Шычко быў пераканаць, што слова, напісанае чалавекам перад сном, уздзейнічае на свядомасць і падсвядомасць шматкроць мацней, чым словы сказанае, пачутае, прачытанае. А яшчэ прыйшоў да высновы, што падманлівыя, шкодныя праграмы разбураюцца ў сне, калі чалавек спіць пасля напісання спецыяльнага дзённіка і самаўнушэння. Навуковец неадноўчы паўтараў: людзі не вінаватыя, што ўжываюць алкаголь і здзяйсняюць іншыя грахі. Людзей так прывучылі: яны сталі рабамі шкодных звычак.

У аснове метаду Шычко — механізм уздзеяння на свядомасць і падсвядомасць праўдзівай інфармацыяй. Паглядзеўшы праўдзе ў вочы, варта правесці аналіз пражытага дня — у выглядзе напісання дзённіка. Трэба паставіць спецыяльныя пытанні і падрабязна адказаць на іх. І яшчэ — напісаць унушэнне самому сабе перад сном. Навучанне метаду Шычко праводзіцца ў групах па 2 — 3 гадзіны ў дзень — на працягу 7 — 10 дзён запар. І абавязкова пасля навучання — паўгадавое напісанне дзённікаў па спецыяльным графіку. Як прыём лекаў. Хаця Шычко глыбока пераканаты: яго псіхікапедагагічны метад павінен праходзіць без ужывання медпрэпаратаў і ўсялякіх дадатковых методык уздзеяння на свядомасць. Дзённікі перасылаюцца па пошце кіраўніку занятак, які праводзіць аналіз індывідуальна зробленай працы, выдае «на-гара» падказкі, уносіць карэктывы ў паводзіны чалавека.

…Расказваю пра Шычко і яго метад на ўскраіне другой пухавіцкай вёскі — Белае. Спыніліся тут, каб распытаць дарогу на Груд. Аказалася, што адзін з суразмоўцаў — зямляк вучонага. Віктар (так завуць маладога мужчыну) прозвішча Шычко чуў. Астатняе для яго — адкрыццё. Прыкурваючы чарговую цыгарку, Віктар кідае калючы позірк у бок другога нашага суразмоўцы. І адпускае колкую фразу: «Вось бы нам сюды гэтага вучонага... Няўжо забыўся, як пластом ляжаў і «хуткую» выклікалі?..» Засмяяўшыся, дадае: «І як я цябе падкузьміў?!» Ясна, што і ў Белым, і, відаць, у іншых ваколіцах патэнцыяльных кліентаў палекаваца па метадзе Шычко дастаткова.

Віктар падказвае: магчыма, у Грудзе пра вучонага раней мог бы распавесці Валодзя Шычко. Але той даўно памёр. І ці быў ён родзічам піцерскаму змагару з алкагалізмам, ці не, — хто ведае? Генадзь Шычко разам з бацькамі малую радзіму пакінуў задоўга да Вялікай Айчыннай. Служыў спярша на флоце. А пад Сталінградам быў паранены ў абедзве нагі. Скончыў у 1954 годзе псіхалагічнае аддзяленне філасофскага факультэта Ленінградскага ўніверсітэта. Па размеркаванні трапіў у Інстытут эксперыментальнай медыцыны, дзе адпрацаваў больш як 30 гадоў. У 1956 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю «Да пытання пра вышэйшую нервовую дзейнасць дарослага чалавека», а ў 1969-м падрыхтаваў працу «Другая сігнальная сістэма і яе фізіялагічныя механізмы».

Легендай у сваёй антыалкагольнай бітве Шычко быў не толькі ў Ленінградзе, але і на ўсёй савецкай прасторы. Расказваюць, што аднойчы да Генадзя Андрэевіча па дапамогу звярнуўся юнак, якім авалодала пагубная страсць да алкаголю. Як высветлілася, гэта ўнук Аляксандра Твардоўскага. Шычко доўга займаўся з ім і дапамог маладому чалавеку. Хто ведае, калі б сустрэўся раней на шляху вучонага сам аўтар «Васіля Цёркіна» Аляксандр Твардоўскі, можа быць, і ён змог бы пазбавіцца знішчальнай хваробы?

Сярод пацыентаў Генадзя Андрэевіча і кампазітар Салаўёў-Сядой. Шычко надоўга вярнуў яго да цвярозага ладу жыцця. І за гэтыя гады творца напісаў шмат новага. Але аднойчы аўтару «Падмаскоўных вечароў» у Крамлі ўручалі чарговы (і, як атрымалася, апошні ў яго біяграфіі) ордэн. Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета Геаргадзэ настойліва запатрабаваў узяць у рукі бакал:

— Як? Не хочаш выпіць са мною! Ды ты паглядзі, якое віно — кабернэ! Яго пастаўляюць толькі сюды, у Крэмль!

Кампазітар паслухаўся. З таго часу зноў пачаў моцна выпіваць і ў хуткім часе памёр.

…У Грудзе сярод дзесяці з невялікім жыхароў галоўны старажыл — 93-гадовая Лізавета Шкробат. Але яе сын настойліва ўгаворвае нас не турбаваць маці: усё адно, мауляў, нічога не помніць. Зазіраем да Емяльяна Неймана. Прозвішча ў чалавека, пагадзіцеся, не пухавіцкае… Высвятляецца, што Нейман родам з Украіны. Амаль адразу пасля вайны патрапіў на будаўніцтва Мінскага аўтазавода. А з Груда — яго жонка. Цяпер і сам пастаянна жыве ў вёсцы.

Слова за слова і, як ні дзіўна, высвятляецца, што Емяльян Генрыхавіч нават сустракаўся з Генадзем Шычко!

— Пасля вайны ён у Груд адзін ці нават два разы прыязджаў. На Радаўніцу на могілках і пазнаёміліся. Прыехаў з жонкай у канцы пяцідзясятых… Генадзь Андрэевіч быў высокім, прадстаўнічым мужчынам. Мы і тады ведалі, што ён — вучоны. А чым займаецца, якія кніжкі піша, пра гэта не гаварылі. Вяскоўцы лішняга не пыталіся… А вось колькі гадоў таму ў Груд наведалася вялікая група людзей: усё пра Шычко распытвалі.

Фраза пра тое, што сучасная вёска співалася, даўно на слыху. Але вось у тым самым Грудзе хутка не застанецца каму жыць, не тое што піць… Калі ж і п'е хто, дык ці яго ў тым віна? Каб параніць і пакрыўдзіць людзей, якія п'юць, вялікага розуму не трэба. А ці не працяй працягнуць ім руку дапамогі, паказаць, як можна з алкагольнага палону выбрацца? Сёння са статыстыкай не проста: не кожную бяду за лічбамі разгледзіш. Па статыстычныя аргументы звернемся ў часіны мінулыя. Адна з вельмі «цікавых» лічбаў прагучала і ў вострых артыкулах Генадзя Шычко, у яго лістах у Дзяржплан СССР і ў ЦК КПСС: кожны «п'яны» рубель, які паступаў у бюджэт на пачатку 1980-х гадоў, наносіў грамадству шкоды ў прамых эканамічных стратах на 3 рублі. Часіны хутка змяняюцца. У многім і ў лепшы бок… Але вось лічбы ў лепшы бок — наўрад ці…

Дзве задачы перад сабою ставіў наш зямляк, спрабуючы ўкараніць свой метад. Першая — разбурыць стэрэатыпы мыслення людзей, якія п'юць. І другая — стварыць новыя ўстаноўкі на здаровае і духоўна багатае жыццё без залежнасці. Атрымліваецца, што разбурыць — заўсёды палова справы. Трэба ведаць, дзеля чаго і ў імя чаго…

**Павел АЛЬСОВЫ**

# Прыцягальнасць тэракоту

**Хто не любіць беларускую бабку? Думаецца, асабліва смачнай яна атрымліваецца ў гаршочку з майстэрні ганчара Сяргея Нагаева. Сёння такую кераміку з чырвонай гліны называюць тэракотавай.**

Наведаўшыся ў Святлянскую майстэрню ганчара, члена Беларускага саюза майстроў народнай творчасці, можна пераканацца, што гліна для Сяргея Нагаева — нібы жывая істота. «Божым промыслам» называе творца свой жыццёвы выбар. Бабруйскае мастацкае прафесійна-тэхнічнае вучылішча (цяпер — каледж). Установа на той час была вельмі прэстыжнай.

А ў 1993 годзе ў старым занядбаным будынку колішняга святлянскага клуба браты Нагаевы стварылі творчую майстэрню. Цяпер тут прывабная сядзіба, з адметным ландшафтам, музеем і традыцыямі. Каля самага ўваходу — курган. Як высветлілася, гэта запасы гліны, прывезенай з-пад Крэва. Няўжо няма бліжэйшага радовішча? Тут матэрыял лепшы ці не ва ўсёй Беларусі, упэўнены Сяргей.

Спрабавалі Нагаевы выбляць з гліны цэглу. Была мара нават цагельню адкрыць. Засталося з таго часу некалькі цаглін, якія цяпер сталі экспанатамі ці не адзінага ў свеце музея цэглы, які знаходзіцца менавіта ў вёсцы Святляне Смаргонскага раёна. Пра кожны экспанат гаспадар гатовы распавядаць падоўгу і з імпэтам.



*Сяргей Нагаеў.*

Прыцягвае сюды не толькі ганчарскі талент, але і апавядальніцкі. Бывае, што на тыдзень па тры-чатыры экскурсіі ладзіцца. І, вядома ж, многіх здзіўляе курган ля ўвахода. Адсюль і пачынаецца экскурс у свет гліны. Гаспадар тлумачыць, што нельга са свежаздабытай гліны ляпіць рэчы — яна павінна выспець. Тады і атрымліваюцца якасныя рэчы.

**Ала КЛЕМЯНОК,**
**фота аўтара**

*Цікава ведаць*

# Вербы гарадзенскія

Паводле рашэння Беларускага рэспубліканскага навукова-метадычнага савета па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры, велікодныя вербы майстроў Гродзенскай вобласці папоўняць Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Беларусі.

Гэты статус будзе нададзены ўнікальным рэчам, якія ствараюцца ў Гродне, аграгарадках Адзельск, Індура, гарадскім пасёлку Сапоцкін і маюць адметную тэхналогію вырабу раслінна-кветкавых кампазіцый да Вербнага тыдня. Гэтыя вербы — святочны атрыбут і адначасова сучасны твор народнага мастацтва.

Гродзенскія вербы плоскія, вышынёй да паўметра, абавязкова зробленыя з трох галінак белай вярбы. Майстры працуюць з разнастайнымі па фактуры і пластыцы матэрыяламі: каласамі аўса, жыта, травой.

На Юр'е ў вёсках прынята выганяць жывёлу на пашу асвячонымі вербамі, на Дзяды іх нясуць на могілкі. Згодна з традыцыяй, унікальныя вырабы спальваюць у канцы Вербнага тыдня. Попел збіраюць, нясуць у касцёл і там пасыпаюць ім галаву. Акрамя сакральнага хрысціянскага значэння, сёння вербы набылі і дэкаратыўны характар — імі пачалі афармляць жыллё.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# І мары, і вершы...

Усталічным выдавецтве «Каўчэг» выйшла першая кніга лірычных вершаў асіповіцкай паэтэсы Сафіі Мароз «Будуць мары вясёлкай зіхцець». Творы вызначаюцца жыццёвасцю і лірычнасцю, любоўю да сваёй Бацькаўшчыны. Прадмову да кнігі напісаў член Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікола Салаўцоў.

Сафія Мароз пачала пісаць вершы ў школе. Яшчэ другакласніцай стала адной з пераможцаў літаратурнага конкурсу «Мая радзіма», які праводзіла газета «Піянер Беларусі». Заваявала другое месца. Неадназорова была прызёрам раённых паэтычных конкурсаў. Шмат гадоў працуе дырэктарам Пратасевіцкага сельскага Дома культуры.

**Мікола ЧАВУСКІ**

# «Арт-Жыжаль»: жывы агонь



*Ларыса Траццякова «Скалісты бераг». Расія.*

**Вынікам міжнароднага пленэру па кераміцы «Арт-Жыжаль 2014» стала выстаўка «Кераміка начы» ў сталічным Цэнтры сучасных мастацтваў.**

Гісторыя «Арт-Жыжаля» пачалася ў 2003 годзе. Чарговы, 12-ы, форум праходзіў 10 — 31 ліпеня мінулага года ў Бабруйску пры падтрымцы Бабруйскага мастацкага музея і бабруйскай гарадской арганізацыі Беларускага саюза мастакоў пад дэвізам «Ад традыцый да сучаснасці праз вопыт майстэрства». Удзел у ім узяў 21 прафесійны мастак-кераміст з Беларусі, Латвіі, Польшчы, Расіі, Сербіі, Турцыі, Украіны. Экспазіцыю склала каля 70 кампазіцый: работы, створаныя ўдзельнікамі за тры тыдні напружанай працы.

Асноўная тэма пленэру — напольны свяцільнік «Жывога агню» скульптурнага характару ў грамадскім інтэр'еры.



*Валерый Калтыгін «Палымнеючая кветка». Беларусь.*

У выставачнай экспазіцыі можна пабачыць керамічныя свяцільнікі Ларысы Траццяковай («Прыцягненне»), Ганны Амбросавай («Аркада»), Яраславы Данілюк («Птушка ў клетцы»), Веры Бакаставай («Фокус») ды інш.

Адным з дасягненняў пленэру можна лічыць стварэнне дзвюх «вогненных скульптур», абпал якіх зроблены ў апошнія ночы, стаў сапраўдным святочным шоу для гледачоў. Гэты від выяўленчага мастацтва з'явіўся ў Заходняй Еўропе. У вышыню такія творы дасягаюць 3 — 4 метраў. Канструкцыі, канфігурацыі, вобразы і тэмы тут могуць быць самымі рознымі. Добра апаленая скульптура свеціцца: знутры выбіваецца полымя, якое праз некаторы час паступова патухае. Так, скульптуру «Бабёр, які спявае» вышынёй 170 см вырабіў па ўласным эскізным



*Фота Кастуся Дробава*

*Магдалена Забароўска «Арэлі». Польшча.*

праекце кіраўнік пленэру, кераміст, кіраўнік бабруйскай гарадской арганізацыі «Беларускага саюза мастакоў» Валерый Калтыгін, а паверхню рэльефна дэкарыравалі ўдзельнікі пленэру. Яшчэ адна вогненная скульптура пад назвай «Палымнеючая кветка» — аб'ёмна-пластычная варыяцыя В. Калтыгіна вышынёй 210 см на тэму беларускіх выцінанак.

Летась склад удзельнікаў пленэру быў абноўлены амаль напалову, прычым многія навічкі ніколі не ўдзельнічалі ў такіх маштабных праектах. Таму вялікая адказнасць лягла на плечы дасведчаных керамістаў. Але форум атрымаўся, нават нягледзячы на дождж.

Акрамя работ кіраўніка пленэру, у экспазіцыю ўвайшлі творы членаў БСМ Максіма Калтыгіна, Вольгі Сямашка, Анатоля Концуба, Алега Ткачова, маладых айчынных мастакоў-керамістаў Ганны Амбросавай, Наталлі Целеш, Антона Ціханаўца, Таццяны Януш, членаў Саюза мастакоў Расіі Алены Сласнікавай, Яраславы Данілюк, Веры Бакаставай, Ларысы Траццяковай, а яшчэ — Ясміны Дзіклік (Сербія), Дзіяны Вернера (Латвія), Магдалены Забароўска (Польшча), Ігара і Тамары Бяроза ды Ганны Лысык (Украіна). Прадэманстравалі свае майстэрства і керамісты з Турцыі Саліха Картал і Кемеран Озлам Сарніч.

Засваенне прынцыпаў і спосабаў стварэння, абпалаў «вогненнай скульптуры» — адкрыццё новых старонак у айчыннай мастацкай кераміцы.

**Яна ЯВІЧ**

# Паэзія адценняў

**Выстаўка акварэльных палотнаў Сяргея Пісарэнкі «Цьмяныя аповеды» адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. Звыклы тэзіс пра тое, што твор выяўленчага мастацтва — гэта заўсёды канструяванне палатна, выбар матыву, пазбаўленне лішняга, — тут гучыць па-новаму.**

Сёння Сяргей Пісарэнка вядомы не толькі на радзіме, але і за яе межамі. Ён пастаянны ўдзельнік шматлікіх рэспубліканскіх і міжнародных выставак і пленэраў, а нядаўна прывёз два залатыя медалі з выстаўкі «Прастора быцця», што прайшла ў Цэнтральным Доме мастака (Масква) ў межах міжнароднага гуманітарнага праекта «Свет без межаў». Гэты праект стартаваў у 2012 годзе і аб'яднаў прадстаўнікоў розных сфер культуры і мастацтва. С. Пісарэнка быў прызнаны найлепшым аўтарам выстаўкі.

Творчасць С. Пісарэнкі — арганічнае перапляценне рэалізму, сімвалічнасці і канцэптуальнасці. У палотнах мастака — сапраўдная лірыка фарбаў і адценняў. Давяраўшыся інтуіцыі, падсвядомасці, ён здолеў рэалізавацца духоўна.

Сяргей Пісарэнка нарадзіўся ў 1967 г. у Маладзечне. Выпускнік Рэспубліканскай школы-інтэрната па музыцы і выяўленчым мастацтве (цяпер — гімназія — каледж мастацтваў імя І. Ахрэмчыка) і Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў



*«Зіма». 2003 г.*

(аддзяленне станковай графікі). Дыпломным праектам, выкананым пад кіраўніцтвам Васіля Шаранговіча, стала рукапісная кніга «Песня пра зубра».

За плячыма С. Пісарэнкі — моцная мастацкая школа: вучыўся ён у Генадзя Грака, Паўла Семчанкі, Уладзіміра Басалыгі, Уладзіміра Савіча, Вячаслава Паўлаўца, Уладзіміра Вішнеўскага, Вячаслава Цюрына. Працуе ў тэхніцы акварэлі і алейнага жывапісу. Член Беларускага саюза мастакоў і аб'яднання мастакоў «Арцель».

На вернісаж завіталі калегі творцы, у тым ліку мастакі Леанід Хобатаў і Ганна Гадзірава. Кіраўнік «Арцелі» Рыгор Несцераў заўважыў: у работах Сяргея Пісарэнкі шчыра, па-мастакоўску тонка ўвасоблены прыгажосць і гармонія навакольнай рэчаіснасці. А на думку мастацтвазнаўцы Ларысы Фінкельштэйн, яго творы — увасабленне мастакоўскага міфа аб прадмеце, аб дзівоснай святлопаветранай прасторы, не бачнай іншым. Вось тут і схавана грань паміж выяўленчым і дэкаратыўным мастацтвам, прычым думкі і пачуцці мастака апошняе выказвае пры судакрананні з прадметам ці з'явай.

Ідэал прыгажосці і гармоніі, недасягальны ў паўсядзённым жыцці, майстар бачыць нібы скрозь туман, і гэта дадае яго творам таямнічасці. Туман — правобраз асаблівага, далікатнага свету, які можа растаць у паветры пры любым неасцярожным руху. Туман — гэта флёр, якім агорнуты палотны Сяргея Пісарэнкі («Дзве грушы», «Кошык з грушамі», «Вясновыя кветкі», «Васількі», «Домік у садзе» і г. д.).



*«Вясновыя кветкі». 1998 г.*

Мастацкі свет акварэліста ўяўляе сабою сукупнасць адценняў і нюансаў малочнага, жамчужнага, серабрыстага, дымчата-блакітнага, ліловага. Але чым больш углядаешся ў гэтыя творы (а ў экспазіцыі — 21 палатно), тым выразней у іх акрэсліваюцца канкрэтныя вобразы: садавіна, кветкі, дрэвы, будынкі…

Выстаўку можна наведаць да 9 лютага.

**Яна ЯВІЧ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Адкрытага акцыянернага таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
г. Мінск, 1-ы Загарадны зав., 3
Індэкс 220073

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2263.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 22.01.2015 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1455 г.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
15003
ISSN 0024-4686